PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2003) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 2 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Дзіцячы хор пры праваслаўным саборы святога Мікалая ў Беластоку спявае на агульнапольскім з'ездзе педыятраў.*

## Шырокай дарогі !

**Гутарка з АЛАЙ ДУБЕЦ, кіраўніком дзіцячага хору пры праваслаўным саборы святога Мікалая ў Беластоку.**

*— Нядаўна Ваш хорык выступіў у Беластоцкай філармоніі на агульнапольскім з'ездзе педыятраў і зрабіў вялікае ўражанне на дзіцячых лекараў не толькі з усяе краіны, але і з-за мяжы.*

— Ну, не такі ўжо ў нас „хорык" — у мінулым годзе спявала 55 асоб!

*— „Хорык" — бо дзеткі. Мяне асабліва ўзрушыла, як яны сваімі маленькімі галаскамі заспявалі, побач з дзвюма рэлігійнымі песнямі і адной польскай, беларускую народную песню „Палюбіла я цыгана". Няхай ведаюць тыя госці, у якім апынуліся рэгіёне!*

— Наогул мы спяваем у царкве і рэпертуар у нас чыста рэлігійны. Такое выступленне адбылося ў нас упершыню.

*— Затое адразу на агульнапольскім і міжнародным форуме! А да таго хор быў прыняты слухачамі надзвычай цёпла. Царкоўныя спевы наогул карыстаюцца ў людзей вялікай папулярнасцю — незалежна ад веравызнання слухача.*

— Плануем у будучым годзе ўзяць удзел у Гайнаўскім фестывалі царкоўнай музыкі. Можам паспяваць па-за конкурсам. У гэтым годзе мы крыху спазніліся.

*— Скажыце, калі ласка, як доўга існуе Ваш хор?*

— Заснаваны ён быў — па ініцыятыве ўладыкі Савы — у 1983 годзе. Заснаваў яго мой муж, пратадыякан Васіль Дубец. Тады ён быў рэгентам. Рэпетыцыі адбываліся спачатку супольна з заняткамі па рэлігіі. Ад 1984 года гэты хор пачала весці я. Пазней мы выехалі ў Санок і чатыры гады нас у Беластоку не было. У той час невялікі хор пры саборы святога Мікалая вяла Ірэна Макац.

*— Ці ў Саноку Вам удавалася не парываць з мастацкай дзейнасцю?*

— Там жа таксама быў дзіцячы хор...

*— Ваш выезд быў вялікай стратай для беластоцкай культуры.*

— Але вось ужо мінула два гады, як мы вярнуліся і я ізноў працую са сваімі харыстамі.

*— Які ўзрост удзельнікаў хору?*

— Ад шасці да пятнаццаці гадоў.

*— А па якіх крытэрыях Вы прымаеце дзяцей?*

— Як толькі дзіця мае крыху слыху, то прымаю. Дзіця яшчэ можа расспявацца. Вельмі хацелася б мне паехаць з дзецьмі ў Рыбінск — гэта 300 км за Масквою. Ёсць там музычная школа для дзяцей, у якой, кажуць, і глухога навучаць. Вельмі каштоўныя былі б для нас іх метадычныя парады. Іхні дзявочы хор „Сакаляты" ўжо два разы выступаў на Беласточчыне. Выступілі на сёлетнім фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

*— Я заўважыла, што ў вашым хоры спяваюць таксама амаль адны дзяўчаты.*

— Сапраўды, у нас толькі чатыры хлопцы. Хлопцы менш адважныя і таму вельмі добра было б, каб прыходзіла да нас іх больш.

*— Як часта адбываюцца ў вас рэпетыцыі?*

— Два разы ў тыдзень, але ў гэтым годзе яшчэ не ўстаноўлены канкрэтныя дні. У дзяцей шмат заняткаў, яны ходзяць не толькі ў школу: адны ходзяць яшчэ на музыку, другія — на



*Ала Дубец.*

**Фота Ады Чачугі**

танец, замежныя мовы вывучаюць. Трэба ўсё дапасаваць. Але напэўна будуць заняткі ў суботу.

*— Падабаецца мне ў Вашых дзетак культура спеву, натуральнасць, далікатнасць...*

— Справа ж не ў тым, каб „урэзаць" — чым галасней, тым лепш.

*— Ад 1982 года ў студзені ў Беластоцкай філармоніі адбываецца штогод спяванне праваслаўных калядак. Ваш хор спяваў цудоўна!*

— Мы ўжо два разы выступалі там. Канцэрты ішлі на працягу трох дзён, а білетаў бракавала! Прымалі ўдзел у гэтых спевах таксама хоры з царквы Святога Духа на Антанюку, Усіх Святых на Выгодзе, з царквы святога Ільі у Дайлідах, з Васкрасенскай царквы на Сонечным Стоку, царкоўны хор з Гарадка пад кіраўніцтвам Юрыя Астапчука, ну, і мы, з сабора святога Мікалая. Я заспявала таксама з хорам БГКТ, які вядзе Віктар Маланчык.

*— Здаецца, многія дзеткі з царкоўнага хору спяваюць таксама ў хоры „Каласкі", які працуе пры Беларускім таварыстве?*

— Так, гэты хор я таксама вяду.

*— Адным словам, у вядзенні хораў у Вас ужо немалы вопыт (нягледзячы на Ваш малады ўзрост)?!*

— Адна мая былая харыстка ўжо матушкаю ў Пухлах. Многія з спявачак цяпер у маладзёжным хоры, які працуе таксама пры нашым саборы. Ім кіруе Аляксандр Лысынкевіч.

*— У царкоўных хорах пачыналі многія славутыя спевакі. Некаторыя спяваюць у царкве да сёння.*

— Анна Герман вельмі часта спявала у праваслаўным саборы Марыі Магдаліны ў Варшаве. Але ўжо абавязкова — у Вялікі Чацвер. Спявае таксама вядомы оперны спявак Бернард Ладыш ды іншыя.

*— Дык, можа, і з нашых дзетак вырастуць вялікія людзі!*

— А пакуль што запрашаем тых, у якіх добры голас і хто любіць спяваць, у наш хор!

*— Дык шырокай дарогі ім!*

**Гутарыла Ада Чачуга**

## Што новага ў Музеі?

Пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы пачалася ў 1986 годзе. На працягу 8 гадоў змяніліся палітычныя абставіны, а разам з імі і канцэпцыя будучага Музея.

Гавораць: намеснік старшыні Камітэта пабудовы Музея Аляксандр Харкевіч і сакратар — Міхал Голуб:

— На сённяшні дзень будынак Музея ўжо пастаўлены, засталося аднак выканаць вонкавыя і ўнутраныя аддзелачныя работы. Гэта таксама вельмі вялікая і марудная справа. Ніхто канкрэтна не ведае, калі канчаткова будзе завершана будова, бо гэта залежыць ад фінансаў. І тут хацелі б мы паклікаць на дапамогу ўсю беларускую інтэлігенцыю. Яна якраз магла б пяснісць усім суродзічам патрэбу пабудовы Музея. І калі б кожная сям'я ахвяравала, напрыклад, 50 тысяч злотых (а мяркуем, што ў Польшчы было б 100 тысяч такіх сем'яў), Музей быў бы ў хуткім часе адкрыты. Як жа выглядае фінансаванне будовы да гэтай пары? Менавіта так:

— 30% — фінансавала Рэспубліка Беларусь,

— 30% — Міністэрства культуры і мастацтва РП,

— 30% — гміны, прадпрыемствы, установы,

— 10% — прыватныя асобы.

Таксама ўсе працаўнікі Музея вядуць гаспадарчую дзейнасць — здымаем памяшканні (напрыклад, будынак А арандуе ў нас фірма UNIBUD), турыстам прадстаўляем платныя начлегі, у падвале працуе раздзявальня для працаўнікоў Бельскага будаўнічага прадпрыемства. Таксама зарабляем здымаючы залы на розныя мерапрыемствы — вяселлі, навагоднія балі, вечарыны. У мінулым годзе зароблены намі грошай хапіла на ўсе бягучыя кошты карыстання памяшканнем, аплату штатных працаўнікоў, а нават засталося 100 мільёнаў злотых выручкі. Аднак гэтага замала.

У грамадстве таксама адчуваецца стома бясконцымі просьбамі аб дапамозе. У апошні час выявілася і такая праблема — многія сяляне замест падараваць Музею экспанаты, прадаюць іх за долары немцам. Найбольш актыўнай у дапамозе Музею і ў далейшым застаецца Гайнаўшчына, а хацелася б уключыць і Бельшчыну, і Сакольшчыну. Нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці, Музей памалу змяняе, на карысць, свой воблік. Зараз жа навонкі ідзе штукатурка будынка, а ў сярэдзіне кладуць фасадныя пліткі. Працу выконвае Бельскае будаўнічае прадпрыемства.

Неўзабаве будзем парадкаваць навакolle Музея. Тады падключым будынак да дарожнай сеткі горада. Будзе таксама брама паводле цікавага праекта.

Хацелася б, каб усё грамадства ўключылася ў ажыццяўленне нашай ініцыятывы. Вельмі шкодзяць міфы тыпу: „Маўзалей будуюць, а не музей". Такія чуткі аслабляюць заангажаванасць і ахвярнасць людзей. Музей — гэта дом памяці ўсіх беларусаў, — дабавілі Аляксандр Харкевіч і Мікалай Голуб.

**Запісала Ганна Кандрацюк**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Палякі памятаюць абяцаньне Лукашэнкі, які ў часе перадвыбарчай кампаніі сустракаўся з актывістамі Саюзу палякаў. Лукашэнка паабяцаў, што калі стане прэзыдэнтам, дык ні якіх праблемаў з польскімі школамі ў Беларусі ня будзе. На Гарадзеньшчыне больш за 11 тысяч дзяцей вывучаюць польскую мову. У Горадні яна выкладаецца нароўні зь іншымі дысцыплінамі ў дзесяці клясах. Неўзабаве ў горадзе распачнецца будаўніцтва першай у Беларусі польскай школы. Есьць пляц пад будову і гатовы праект. Канцэпцыя распрацаваная ў Саюзе палякаў. Сэнс яе ў тым, каб стварыць у адным месцы польскі культурна-асьветны цэнтр. Побач будзе садок і інтэрнат для таленавітых вучняў. Насупраць пабудуюць касьцёл. У школе будзе басейн і сталоўка, каб можна было тут ладзіць польскія вясельлі ды іншыя сьвяты. Дарэчы, фінансуе ўсё Польшча. Ад нашага ўраду палякі спадзяюцца атрымаць грошы яшчэ на адну гэткую ж школу. Яе зьбіраюцца будаваць у занёманскай частцы горада. Нядаўна гарадскія ўлады вылучылі для будовы пляцоўку. Праблемай аднак робіцца абыякавасьць самых палякаў да ўсяго гэтага. Польскія школы канечне будуць, а дзе будучыя вучні? Іх няма! — з горычччу гаворыць Тадэвуш Гавін. Актывісты Саюзу наракаюць, што мусяць хадзіць па кватэрах і ўпрошваць бацькоў аддаць дзяцей у польскія клясы. Але тыя ў большасьці адмаўляюцца. У Горадні жыве недзе каля 60 тысяч палякаў, у гарадзенскім аддзеле Саюзу — 2,5 тысячы сяброў. Тым часам падпішчыкаў на газэту „Głos z nad Niemna" усяго 800. Невялікія вынікі дае і агітацыя за падпіску перад набажэнствам у Фарным касьцёле...*

*(Свабода, н-р 34)*

Што-нішто і нам не чужое!

* * *

*Urzędnik z Ministerstwa Współpracy Gospodarczej z Zagranicą dorabia dodatkowo do pensji w siedmiu radach nadzorczych 217 mln zł. miesięcznie.*

*(Rzeczpospolita, nr 210)*

Гэта адказ на пытанне, чаму сярэдняя заработная плата ў Польшчы дасягае 5 мільёнаў злотых.

* * *

*„Mogę ci zaoferować pensję i dwie rady nadzorcze". To język, którym operuje się w rządzie.*

*(Wprost, nr 37)*

Мова простая, прыгожая і зразумелая.

* * *

*Liceum Ogólnokształcące z Białoruskim Językiem Nauczania w Bielsku Podlaskim obchodzi w tym roku 50-lecie. Nauczycieli niepokoi ukrywanie przez młodzież swojej tożsamości narodowej. Według badań ankietowych tylko co czwarty absolwent bielskiego liceum przyznaje się do białoruskiego pochodzenia. Pozostali uważają się za Polaków. Często słyszymy od młodzieży, że może będzie bezpieczniej, jeśli podadzą się za Polaków — stwierdziła dyrektor Zinaida Nowicka.*

*(Kurier Poranny, nr 191)*

* * *

*Hasło „miłość bliźniego" oznacza zimny, trupi cynizm w stosunku do każdego pozytywnego dążenia człowieka. Upiorna, wyziębiona starość, chichocząca nad każdym dążeniem, zamiarem, dziełem, bije z apelów o miłość bliźniego. Wołanie o miłość jest bronią słabego, który w ten sposób ma nadzieję rozbroić moralnie i unieszkodliwić silniejszego. Słaby czuje się dobrze tylko tam gdzie nic się nie dzieje; gdzie nikt z nikim o nic nie walczy, do niczego nie dąży, żadnych oporów łamać nie potrzebuje. Taka rajska sielanka jest oczywiście chorobliwym złudzeniem. Ci, którzy płaczą, są cisi i pokornego serca, ci ziemi nie posiądą, zawsze będą niewolnikami.*

*(Narodowy Socjalista, nr 2 — organ Ruchu Narodowosocjalistycznego Wielkiej Polski.)*

* * *

*Cerkiew Zwiastowania NMP w Supraślu to zawsze był przecież nieco przebudowany kościół gotycki, polski z konstrukcji i ducha — głosi pewnik Wojciech Załęski z Towarzystwa Przyjaciół Supraśla. Dla Załęskiego cerkiew to przedłużenie wpływów moskiewskich. Do prawosławnej hierarchii Załęski ma pretensje, że odrzucała proponowane przez miejscową społeczność inicjatywy ekumeniczne, i to, że prawosławni, nie wiedzieć z powodu jakich kompleksów, tak ostentacyjnie zamykają się we własnym gronie. No i o to wreszcie, że ze skargami zbyt często wyjeżdżano za granicę na wschód.*

*(Rzeczpospolita, nr 208)*

І паспрабуй дыскутаваць з такім „экуменістам"! Калі хтосьці з „праваслаўных палякаў" верыць яшчэ ў тое, што „экуменісты" перастануць называць яго маскоўскім агентам, шчыра яму спачуваем. Толькі „сапраўдная вера", таварышы, дасць вам пачуццё прыналежнасці да высакароднай нацыі.

* * *

*Уважаемый Александр Григорьевич! При Вашем открыто заявленном воссоединении с Россией, а это противоречит Конституции, которую Вы должны соблюдать, Беларусь окончательно исчезнет, как государство, будет западной областью России. Не кажеться ли Вам, что своей любовью к „старшему брату" Вы унижаете достоинство Белapуси?....* — піша чытач у рэдакцыю.

*(Народная газета, 3—5.09.1994 г.)*

* * *

*W Polsce nadal bardziej liczy się osoba przywódcy niż program — dlatego osoba kandydata na prezydenta budzi większe namiętności niż spór o kształt podatków. Jest to zdumiewające — ale taka jest rzeczywistość.*

*(Rzeczpospolita, nr 209)*

Праз 100 гадоў будзе ўсё інакш — лепш, разумней, і г. д. ...

* * *

*Jeżeli żona nie zechce wyprasować garnituru nowym żelazkiem, gdyż nie było ono jeszcze uroczyście poświęcone przez prałata, mąż o przekonaniach laickich wystąpi natychmiast o rozwód; mąż ortodoksa przytuli natomiast kobietę i zrobi jej szesnaste dziecko przy pensji trzy miliony (przerazi to oczywiście feministki, zachwyci księdza proboszcza).*

*(Polityka, nr 36)*

А чым жа шаснаццатае горшае ад адзінаццатага?!

* * *

*Trwają poszukiwania kandydata na prezydenta. Najintensywniej szuka prawica. Warunki jakie powinien spełniać kandydat są wyjatkowo proste. Musi on tylko wywodzić się z etosu i gwarantować ciągłość przemian.*

*(Gazeta Współczesna, nr 174)*

Рыхтуецца доўгае кабарэ. Будзе яно называцца „прэзідэнцкія выбары".

# З мінулага тыдня

**Сейм ухваліў урадавы праект закона аб ахове дзяржаўнай і службовай тайны,** якая забавязвае кожнага, хто сутыкнуўся з дзяржаўнай тайнай, захаваць яе ў сакрэце. Парламентарыі адкінулі прапанову паслоў Уніі вольнасці вызваліць ад гэтага абавязку журналістаў, якія маглі б выяўляць тайну з увагі на „важны грамадскі інтарэс". Журналісты лічаць, што такі закон у небяспечны спосаб абмяжоўвае магчымасці інфармавання грамадства аб пачынаннях урада.

**У Вільні ўрачыста адзначалася 415 гадавіна заснавання Віленскага універсітэта,** які да вайны называўся Універсітэтам Стэфана Баторыя. З гэтай нагоды ў прысутнасці паслоў Польшчы і Венгрыі была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар заснавальніка універсітэта, караля Польшчы і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя.

Ва ўсёй краіне шырока адзначаўся **Тыдзень Януша Корчака** — вядомага польскага педагога і пісьменніка. Святкаванні супалі з пятай гадавінай ратыфікацыі Польшчай Канвенцыі правоў дзіцяці. З гэтай нагоды адбыўся Міжнародны тэатральны фестываль „Корчак сёння" пад лозунгам „Вялікае свята малога чалавека". Да святкаванняў далучылася таксама Пачатковая школа н-р 1 у Беластоку.

Адбыўся **XXIX Міжнародны кантатна-аратарыйны фестываль „Wratislavia Cantans"**. У сёлетнім фестывалі ўдзельнічала 1 630 спевакоў з 16 краін. З поспехам перад вроцлаўскай публікай выступіў таксама **Дзяржаўны камерны хор з Менска.**

**Магчымасці супрацоўніцтва польскіх і нямецкіх турыстычных арганізацый** — гэта тэма канферэнцыі, якая праходзіла ў Беластоку. У сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі дзесяці нямецкіх турыстычных фірм, якія жадаюць наладзіць дзелавыя кантакты з польскімі калегамі. Месца канферэнцыі было выбрана невыпадкова, паколькі немцы ведаюць, што Беласточчына — гэта рэгіён з шырокімі магчымасцямі ў галіне турыстыкі.

**Прэзідэнт Беластока** назначыў упаўнаважанага па справах развіцця **аэрадрома Крыўляны,** які будзе ад імя прэзідэнта горада весці перамовы ў справе будовы малога аэрапорта і наладжання пасажырскай авіяцыі. Цяпер у Крыўлянах на 200-гектарнай плошчы працуе толькі спартыўнае лётнішча.

**На Беласточчыне** праводзіліся манеўры грамадзянскай абароны **„Падляшша-94"** з удзелам высокіх афіцэраў Войска Польскага, прадстаўнікоў ваяводы, самаўрадаў і адміністрацыі. Мэтай гэтых вучэнняў была ацэнка абарончай гатоўнасці на час вайны дырэктарскай кадры ваяводства, гмін і прадпрыемстваў.

**План агульнага добраўпарадкавання Беластока,** распрацаваны аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам архітэктара **Здзіслава Пліхты,** атрымаў грашовую ўзнагароду Міністра прасторавай гаспадаркі і будаўніцтва. У лістападзе аб лёсах гэтага плана — будзе ён прыняты для рэалізацыі ці не — вырашыць Гарадская рада.

**У Семяноўцы фірма „Фармбест"** з Бельска-Падляшскага адкрыла завод вытворчасці штучных угнаенняў, які дасць занятак для 50 чалавек. Кампаненты для прадукцыі завозяцца з Расеі, а ў Семяноўцы іх толькі змешваюць і фасуюць. Плануецца, што завод будзе выпускаць 250—300 тон мінеральных угнаенняў у дзень, таннейшых за польскія на 700—800 тысяч злотых. У інаўгурацыі завода ўдзельнічалі контрагенты з Масквы, Пецярбурга і Новамаскоўска.

**Тэкстыльная фабрыка з Васількава** падчас III Асенняга спажывецкага кірмашу ў Шчэціне атрымала залаты медаль за плашчавыя ваўняныя тканіны (фляўш).

**У Белавежы** адбылася прэзентацыя найлепшых перасоўных сістэмаў маніторынгу аховы асяроддзя з Влоцлаўка, Яленяй Гуры, Сувалкаў, Радама і Беластока. Паказ гэты закончыў трохдзённую нараду працаўнікоў ваяводскіх інспектаратаў аховы асяроддзя.

**Кіраўнік вузкакалейкі ў Гайнаўцы** выявіў, што невядомыя злачынцы ўкралі паўкіламетра рэек са шляху „Рыбакі". Раней невыяўленыя дагэтуль зладзеі вынеслі амаль 700 метраў рэек з іншых шляхоў. Вартасць украдзеных рэек склала суму 50 млн. злотых. У ваколіцы сяляне выкарыстоўваюць вузкакалейныя рэйкі для будовы агароджаў і перакрыццяў у гаспадарчых будынках.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- > Кампазітар Ян Тарасевіч з Беласточчыны — забыты беларускі геній.
- > Юбілейнае святкаванне ў Бельскім ліцэі.
- > У пошуках старадаўняга Гарадка.
- > Гульні Хрушчова з атамнай бомбай.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Аб'яднанне адтэрмінаванае

Аб'яднанне грашовых сістэм Расеі і Беларусі паступова сыходзіць з першых палос газет. Усё часцей выказваецца думка, што пытанне аб'яднання стане для рэспублікі не такім актуальным пасля зняцця іншых перашкод супрацоўніцтва, у прыватнасці мытных бар'ераў.

А вось што думае наконт аб'яднання прэм'ер-міністр Расеі Віктар Чарнамырдзін: „Я вельмі шкадую, што аб'яднанне грашовых сістэм не адбылося, паколькі год таму гэты крок быў магчымы і рэальны. Сёння дагнаць упушчанае вельмі цяжка. Узяць хаця б той факт, што сярэдняя заработная плата ў Расеі ў дзесяткі разоў вышэйшая, чым у Беларусі. Сёння аб'яднанне абазначала б, што Расея ўзвальвае на сябе цяжар дадатковых праблем суседняй дзяржавы. Мы не можам сабе гэтага дазволіць. Таму размова аб аб'яднанні грашовых сістэм можа ісці тады, калі ўзровень эканамічнага развіцця Беларусі будзе аднолькавы з расейскім".

Адмаўляцца ад перагавораў наконт аб'яднання грашовых сістэм, аднак, не збіраецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Растлумачыў ён, што ў такой далёка невясёлай сітуацыі ён не зможа трымаць грамадства ў няпэўнасці і паўтарыць тым самым памылкі старога ўрада. А. Лукашэнка запэўніў, што ў гэтым пытанні ён будзе засноўвацца не на прарасейскіх пазіцыях, якія яму блізкія, а на пазіцыях кіраўніка Беларусі, які прытрымліваецца Канстытуцыі РБ.

## Пракурорскі візіт

З рабочым візітам прабываў у Менску намеснік генеральнага пракурора Польшчы Стэфан Сняжко. У размове з віцэ-прэм'ерам Віктарам Ганчаром абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння беларускага і польскага бакоў ва ўстанаўленні месцаў пахавання польскіх грамадзян на тэрыторыі Беларусі. Бакі прыйшлі да заключэння аб неабходнасці падпісання міжурадавага пагаднення аб аказанні прававой дапамогі ў гэтым сэнсе.

## Прыватызацыя на вёсцы

Пытанням раздзяржаўлення і прыватызацыі ўласнасці ў аграпрамысловым комплексе была прысвечана навукова-практычная канферэнцыя, якая прайшла ў Менску. Як стала вядома, да канца года прадугледжана прыватызаваць 65 дзяржаўных аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. У вёсцы цяпер актыўна рэфармуюцца калгасы і саўгасы. 38 гаспадарак пераўтвораны ў вытворчыя калектыўныя прадпрыемствы і асацыяцыі, 13 — у акцыянерныя таварыствы.

## Незайздросны лёс экс-міністраў

Большасць міністраў былога ўрада пакуль нідзе не ўладкаваліся, — да такога вываду дайшоў менскі журналіст Віталь Цыганкоў, які вывучаў гэтую тэму. Асобнае месца сярод членаў былога ўрада займае міністр абароны Павел Казлоўскі, які ўказам прэзідэнта РБ быў нядаўна паніжаны ў званні. Экс-міністр заявіў, што мае намер змагацца за сваю рэабілітацыю. Тое, што адбылося Казлоўскі назваў спектаклем і заявіў, што збіраецца з дапамогай дэпутатаў звяртацца ў Канстытуцыйны суд. Казлоўскі не звольніцца з узброеных сіл, пакуль указ не будзе адменены, а яму не прынясуць прабачэння за паклёп. Аднак выпадак з Казлоўскім выключны. Астатнімі адстаўка была прынята даволі спакойна. Да гэтай пары толькі два былыя міністры ўладкаваліся на новую працу. Былы віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук — ён доктар фізічна-матэматычных навук — прызначаны рэктарам Беларускай політэхнічнай акадэміі. Таксама па сваёй спецыяльнасці ўладкаваўся экс-начальнік гаспадарчага ўпраўлення Савета Міністраў Георгій Траян, які цяпер працуе дырэктарам аднаго з вядучых камерцыйных банкаў. У астатніх справы не зусім вясёлыя. Былы міністр унутраных спраў Уладзімір Данько мае ўжо права на выхад на пенсію, але ці выкарыстае яго — не вядома. Сцяпан Янчук — былы міністр фінансаў зараз адпачывае і мае намер дзесьці працаваць. Васіль Казакоў — былы міністр аховы здароўя думае, што будзе недзе працаваць, але пакуль нейкіх прапаноў не мае. Прапаноў таксама не мае і былы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Тое ж самае заявіў экс-міністр сельскай гаспадаркі Фёдар Міралчыцкі, які разлічвае на пенсію. Што да асноўных асоб былога Савета Міністраў: В. Кебіча, С. Брыля, К. Косцікава, А. Бокача дык яны таксама сядзяць дома і пакуль нікуды не ўладкаваліся. Падсумоўваючы, можна зрабіць такі вывад: наменклатурныя правілы з камуністычных часоў не вельмі змяніліся. Пакуль ты пры ўладзе, у цябе ўсё, але як толькі ўлада змянілася, прабачце, ніякіх прапаноў.

## Крупская і 29 Ільічоў

У Брэсцкай вобласці з ліку 350 калгасаў 29 носяць імя Леніна і столькі ж Кірава. Далей па частаце ўвекавечанняў ідуць: Калінін — 6, Чапаеў і Дзяржынскі — па 5, Свярдлоў і Дзімітроў — па 3. Адзінымі ў сваім родзе аказаліся Крупская, Фрунзе і Машэраў. Шырока прадстаўлены на Брэстчыне другі месяц восені: пяць гаспадарак названы „Сорак гадоў Кастрычніка", пяць — „Чырвоны Кастрычнік" або проста „Кастрычнік". Ёсць яшчэ два „Бальшавікі" і адзін „Камунар". Са з'ездаў КПСС найбольш шчаслівымі аказаліся XIX, XX і XXIV.

# Тры Мікалаі ў Мілейчыцах

Пятніца, гэта ў Мілейчыцах гандлёвы дзень. На невялічкім травяным пляцы малы рух. Тавараў таксама небагата: памідоры, цыбуля, перчыкі. Госці з усходу разлажыліся з дыванамі ды рознай драбязой: цвікамі, майткамі ці нейкімі парасонамі. Каб не прыезджыя, то гэты пляц нашчэнт зарос бы травою.

На лавачцы каля крамы мужчыны п'юць піва з бутэлек. Гавораць пра гаспадаркі. „Каб я цяпер купляў карову, — даказвае адзін з іх, — ніколі не браў бы вялікай. Жзарэ такая за зіму старану сена, а што яна там многа больш малака дасць?"

Людзей, здаецца, не трывожыць факт, што іхняя гміна — адна з апошніх у ваяводстве без войта. Не чуў я, каб хто пра гэта намякнуў. А ў гэтую ж пятніцу, 9 верасня, збіралася Гмінная рада.

26 жніўня са свае пасады быў адклікаваны войт **Мікалай Бартнічук**. 2 верасня Рада адклікала яго намесніка — **Мікалая Блашчука**. У той жа дзень радныя выбралі Гмінную ўправу, але правамоцтва гэтага акта да часу выбару войта было праблематычнае, таксама як і даручэнне сакратару гміны **Іаанне Слакатовіч** выконваць абавязкі войта.

„Я цяпер з'яўляюся такім аб'ектам для нападкаў, — кажа мне перад сесіяй пані Іаанна, — а найбольшы закід, які мне ставіцца гэта тое, што прыняла я на працу былога войта. Ужо так хацелася б, каб гэтая валтузня з выбарамі скончылася, каб пачалася нармальная праца".

На сесію прыехалі госці з Беластока: старшыня Ваяводскага сейміка **Мечыслаў Янушэўскі** і юрыст з Ваяводскай управы **Яраслаў Зелянкевіч**.

Атмасфера ў зале была высокая ад самага пачатку, ад дыскусіі над парадкам пасяджэння. Крыху яе панізіў пратакол з папярэдняй сесіі — доўгі і да таго падрабязны, што аказаўся быць стэнаграмай з апісаннем такіх дэталяў: „Старшыня Марыя Цесьлік растлумачыла, што на выбарчых бюлетэнях ёсць надпісы „так" і „не". Радныя галасуюць крэслячы адпаведнае слова".

Пасля прыняцця пратакола, радныя ўзяліся за працу. З выканання абавязкаў войта звольнілі **Іаанну Слакатовіч**, а са старшыні Рады — **Марыю Цесьлік**. Старшынёй Рады абраны быў адзін з кандыдатаў на войта — **Мікалай Салышка**. Намеснікі старшыні ўздыхаюць з палёгкай, бо на працягу 10 хвілін ім прыйшлося весці сесію, а гэта аказаўся быць высілак, які перавышаў іхнія сілы.

Наступным пунктам пасяджэння была справаздача гміннага скарбніка з рэалізацыі бюджэту гміны. Пасля некалькіх хвілін паню скарбнік перапыніла радная **Гражына Яшчук** і папрасіла адхіліць гэты пункт. „Радныя не падрыхтаваныя, каб зразумець гэтае мора лічбаў, — даводзіла яна. — Вы ўжо папярэднюю раду атуманьвалі такім чынам і яна потым усё перагаласоўвала паводле вашых думак. Вы гаворыце пра недабор сродкаў, але грошы на зарплату для пана Бартнічука знайшлі. Хапіла таксама, каб заплаціць яму за нявыкарыстаныя водпускі".

Радныя вырашылі ўсё-такі выслухаць інфармацыю скарбніка, а была яна не менш падрабязнай за пратакол. А прозвішча былога войта паяўлялася на сесіі часта, пры розных нагодах. Можна сказаць, што прывід былога войта вісеў над пасяджэннем і замінаў у шчаслівым завяршэнні працы Рады. Хаця ўсё да гэтага шчаслівага заканчэння — выбару войта — вяло.

Калі быў пастаўлены гэты пункт на парадак дня, **Мікалай Салышка** заявіў, што забірае сваю кандыдатуру. І ў гэты момант здарылася штосьці нечаканае. Адзіны кандыдат **Мікалай Блашчук** сказаў: „Прашу, не зразумейце мяне дрэнна, але такая сітуацыя — для мяне неспадзяванка. Я не адмаўляюся кандыдаваць на войта, толькі прашу ўстрымацца з выбарам да чарговай сесіі. Я хацеў бы раней выпрацаваць кансенсус з раднымі, якія былі супраць мяне. Хацеў бы, каб яны зразумелі мяне і мае рацыі. Калі ёсць такая патрэба, я магу заплаціць за дадатковую сесію".

Старшыня аб'явіў перапынак, у час якога радныя зачыніліся з кандыдатам на войта. А публіка тым часам выйшла перакурыць. Адзін чалавек тлумачыў Мечыславу Янушэўскаму: „Разагнаць гэтую банду зладзеяў, дакуль яны будуць піць за нашы грошы. Развязаць гэту гміну, раздзяліць паміж дзве суседнія — гаспадарлівыя Кляшчэлі і Нурэц-Станцыю, і будзе парадак". Старшыня Янушэўскі тлумачыў, што можна такое зрабіць, але гэта не звольніць падаткаплацельшчыкаў утрымоўваць гміну. Усё роўна, ці будзе яна ў Мілейчыцах, ці ў Кляшчэлях, ці ў Нурцы.

А за дзвярыма дагаварыліся. **Мікалай Блашчук** быў выбраны войтам. На 15 членаў Рады 13 асоб аддалі за яго свае галасы. Мікалай Блашчук па прафесіі настаўнік і ў свой час быў нават дырэктарам Пачатковай школы ў Мілейчыцах. А ў папярэдняй управе гміны быў ён няштатным намеснікам войта і з гэтай пасады тыдзень раней адклікала яго гэтая ж самая Рада, якая ўвяла яго 9 верасня на войтаўскае крэсла.

У гміне адчувалася палёгка, хаця не было атмасферы вялікага свята. Нават пасля шампанскага — зафундаванага войтам — радным не развязаліся языкі. Пра будучыню гаварылі з задумай: пабачым.

**Мікола Ваўранюк**

# НЕСПАКОЙНА

Мо і выгадна людзям, калі вёска вялікая і дарожны рух у ёй таксама вялікі. Добра, калі побач спыняюцца аўтобусы і можна ўсюды дехаць. Такой вёскай з'яўляюцца Дубічы-Царкоўныя; тут у нас такі дарожны рух, як на Маршалкоўскай вуліцы ў Варшаве. Ненавіджу я яго, бо трэба мець вочы і спераду, і ззаду, каб выходзячы ці выязджаючы са свайго панадворка не трапіць пад колы самахода.

На бяду, у нашым канцы, вуліцу перасякае шаша Гайнаўка — Кляшчэлі. Тут ужо як у пекле, бо беспарапынку сюды-туды лётаюць розныя аўтамашыны і нават ля самай вёскі імчацца яны з шалёнай скорасцю. Ніхто з сялян мінуць шашу не можа, бо яна ў „стратэгічным" месцы — кругом жа нашыя палі і лугі. Хочаш не хочаш, мусіш праз яе праходзіць і праязджаць.

У гэтым месцы, дзе праходзіць шаша, вельмі небяспечнае разгалінаванне дарог. Хаця стаіць там знак „стоп", перасякаючы шашу трэба быць вельмі мудрым і асцярожным, бо магутныя дрэвы паабапал тае шашы і колішні (ужо непатрэбны) аўтобусны прыпынак засланяюць пешаходу і ездаку гарызонт як з правага, так і з левага боку.

Праз шашу сяляне і дабытак гоняць. На бяду які шалёны шафёр можа ўрэзаць у бедную жывёліну, якая ні на дарожных знаках, ні на небяспецы не разбіраецца.

Я таксама аднойчы, хіба з вясны, праязджаў у гэтым небяспечным месцы і амаль не стаў ахвяраю выпадку. З Кляшчэль ляцеў нейкі аўтамабіль. Я, даязджаючы да знака „стоп", хацеў затрымацца, але не змог, бо тармазы ў мотароверы, як на бяду, не спрацавалі. А тут ляціць на мяне пачвара. На шчасце, шафёр здолеў затармазіць. Машына стала ўпоперак, але нікому нічога не сталася. Аднак шафёр мяне аблаяў з пят да галавы. Відаць, нейкі зацяты шавініст трапіўся, бо і кацапам назваў. На гэта мой адказ быў толькі адзін: каб не „кацапы", дык вас гітлераўцы ўсіх да аднаго ў крэматарыйнай печы спапялілі б.

Людзі з наваколля зайздросцяць жыхарам нашай вёскі, што, маўляў, на ўсе бакі выгада, бо на месцы і прыпынак ПКС, і крама, школа, гмінная ўправа, царква... І што Дубічы амаль мястэчка. А я ім зайздрошчу, бо ў іхніх вёсках цішыня, не чуваць, так як у нас, дурнога грукату машын, чысцейшае паветра і галоўнае — не так скора на выпадак. Там трактарам можна ехаць з заплюшчанымі вачыма.

Мой сябра інжынер Пётр Багроўскі не дурны чалавек, калі пякельны горад — хаця б Беласток — памяняў на сваю ціхую вёсачку Рутку, дзе жыве са сваёю сям'ёй і раднёй. І, як кажуць, жывуць як у Бога за дзвярыма: цішыня, спакой і прыгажосць жывой прыроды.

**Мікалай Панфілюк**

# У Бельску даражэе транспарт

Такую пастанову прыняла Гарадская рада на сваёй 6 сесіі, якая прайшла 16 верасня. Звычайны аўтобусны білет каштуе цяпер 4 тысячы злотых, а льготны — 2 тысячы. Білеты можна набыць таксама ў шафёра аўтобуса, але тады трэба заплаціць даражэй — адпаведна 5 і 2,5 тысячы.

16 верасня было першым днём працы новай Управы горада пад старшынствам бурмістра Андрэя Сцепанюка. Сесія пачалася з урачыстага развітання з былым бурмістрам Казімежам Ляшчынскім, які — усхваляваны — дзякаваў „перш за ўсё Богу" за тое, што вытрымаў чатыры гады гэтай нялёгкай працы. Жадаў усяго найлепшага людзям, якія будуць праягваць яго ролю.

Старшыня Рады Васіль Ляшчынскі — незалежна ад розных прыкрых момантаў на працягу мінулай кадэнцыі — працу старой Управы ацаніў станоўча. „Вы, спадар бурмістр, — казаў ён, — і вашыя супрацоўнікі былі піянерамі самаўрадавай сістэмы. Пракладалі шлях сённяшнім уладам горада".

Пасля ўрачыстасці Рада выслухала інфармацыю пра рэалізацыю бюджэту ў першай палове года і нанесла невялікія змены ў бюджэт на другую палову года. Пытанне аб зарплаце для бурмістра і яго намеснікаў было адасланае ў камісіі для дапрацоўкі.

Справай, якая ўсхвалявала і выклікала вострую дыскусію была пазыка — 20 мільярдаў злотых — на заканчэнне пабудовы гарадской кацельні і мадэрнізацыю сістэмы ацяплення горада. Прыгадаю, што вясною гэтага года пабудова кацельні была спынена, паперы трапілі ў пракуратуру, хаця тая не знайшла прызнакаў злачынства. Аднак у распаложаным у даліне Бельску, які забруджваюць і труцяць дзесяткі комінаў, штосьці ў гэтай справе вырашыць трэба. Так тлумачылі радныя, якія выказваліся за пазыку. І хаця радны Сцяпан Мікалаюк (СЛД) рабіў усё што мог, каб адкінуць гэтую прапанову, усё-такі Рада перагаласавала, што Управа горада будзе намагацца пазычыць грошы ў Ольштыньскім аддзеле Банка аховы асяроддзя.

Радны Марыян Лучай прыводзіў у карысць гэтага такі аргумент: „Мы не ствараем ніякага факта. Мы толькі рыхтуем варункі пад будучыя факты". Меў ён на ўвазе тое, што самую пазыку — калі будзе дапрацавана дамова — Рада будзе прымаць у асобным галасаванні.

Калі скончыліся персанальныя разборкі ў Гарадской радзе Бельска-Падляшскага, як быццам згубілі значэнне партыйныя падзелы. Пачалася мерытарычная дыскусія, узважванне фактаў. Апанентамі з'яўляюцца часта людзі з таго самага клуба. Калі гэтая змена акажацца трывалай, ёсць шанцы на эфектыўную, разумную працу ў Радзе.

**М. В.**

# ПЛОТ

— Дзядзьку! Навошта вам плот растрэслі? — здзекваліся над няшчасным Сенькам жэўжыкі-вашабойня.

Пенсіянер Сенька і ягоная жонка Мурка заўзята пілі брагу. Да іх збягаліся ўсе навакольныя алкаголікі. У вёсцы паўтаралі толькі: „Пайшлі піць тую гадасць!"

І сёння нашыя героі пачалі выпіўку з раніцы. Іх жыццёвая мудрасць — не дапусціць адчуваць пакуты ад перапою. Пілі, смяяліся, плакалі, лаяліся, любаваліся. За іх сталом не раз „ляцелі зубы ворагаў", „вешалася салідарнасць", „гарэлі прывацяжы-крывапійцы".

А калі пенсіянер Сенька ляжаў без памяці і калі

**алкаголікі валяліся,**

бяззубая Мурка — пенсіянерка і малойчык, таксама шчарбаты, спаглядалі сабе ў вочы і разбягаліся ў супрацьлеглыя канцы вёскі.

— Кажуць, што на выгане ваўкі авечак качаюць, — тлумачыла, сядзячым на лаўках пенсіянеркам, Мурка.

— Каня майго не бачылі? — пытаў напатканых вяскоўцаў шчарбаты.

Нашыя героі апісалі „ад злосных вачэй" зачараваны круг і сустрэліся за клуняй Сенькі, ля саліднага плота.

— Ну, ужо зноў збегліся, — інфармаваліся маланкава вяскоўцы. Таксама дзеткі з усяе вёскі ляцелі стрымгалоў. Будзе ім аб чым расказваць на школьных перапынках, хаця і вочкі ад сораму ім плюшчыліся. Гульню папсавала раз'юшаная старэча, маці кавалера.

— Ты, сякая-такая (далей пайшлі грубыя эпітэты), навошта майго хлопца калечыш?

— Зараз то я цябе, старэчаведзьма, скалечу, — насцярожылася Мурка.

Бух, бух, бух, бух — мацаваліся бабы і плот Сенькі перакінулі.

Кавалер даў драла, ягоная палюбоўніца ляжала параненая, а старая, плюнуўшы тры разы, вярнулася да сяброўак-пенсіянерак.

— А чаму мой плот пацярэблены? — пытаўся працверазеўшы Сенька.

— А ты, п'яніца горкі, розум адап'еш, платы свае ломіш і мяне барабаніш, — галасіла сляздліва Мурка.

Сенька, як Сенька, узяў і плот новы паставіў.

Цяпер плот у яго на ўсю вёску. А людзі ў вёсцы добрыя. Нічога брыдкага ў вочы не скажуць.

**К. С.**

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

### Дарога ў Полацак

З Менска ў Полацак недзе каля 250 кіламетраў. Салідная, шырокая шаша пралягае так, што мінае амаль усе мястэчкі, якія знаходзяцца на гэтым шляху. Толькі рэйсавыя аўтобусы з'язджаюць з галоўнай дарогі (1—2 кіламетры), каб забраць пасажыраў з мястэчак ды пасёлкаў. Нашая група забралася ў Полацак з паломнікамі, якія везлі лампаду, запаленую агнём са Святой Магілы Гасподняй. З гэтай лампадай беларускія праваслаўныя дзеячы наведалі ўсе святыя месцы ў краіне і паставілі яе побач мошчаў Св. Еўфрасініі Полацкай.

Краявіды на паўночны-ўсход за Менскам моцна напамінаюць ландшафт Беласточчыны. Трава, кусты, дрэвы амаль такія самыя, толькі вёскі выглядаюць інакш. Платоў і пуняў амаль не відаць, хаця прыватныя гаспадаркі сталі ўжо нармальнай з'явай у жыцці вёскі. Можа яшчэ гэта не такія гаспадаркі, як у Польшчы, тым не менш выразна відаць, як калгасныя монакультуры дзеляцца на 1—3 гектарныя кавалкі. На панадворках у сялян стаяць стагі з сенам, а 2—3 кароўкі на ланцугах даказваюць аб вяртанні капіталізму на вёску. Бліжэй Полацка штораз часцей паказваюцца азёры і завілістыя лініі рэчак. Вада ў азёрах такая чыстая, што здалёк відаць жоўты пясок ля берагоў. Кругом аднак ніводнага курорта, ні гатэля, ні рэстарана, ніякай турыстычнай інфраструктуры, якая магла б мясцовым жыхарам даваць працу і прыбыткі большы, чым зарплата на полацкай прамысловасці. Так, грошы проста ляжаць на зямлі і ніхто не хоча схіліцца, каб падняць іх. Гэтае самае можна аднесці і да горада Полацка.

### Першая сталіца Беларусі

Тут, — як сказаў археолаг з Менска, Сяргей Тарасаў, — немагчыма рыдлёўкай кранучь зямлю ў агародзе, каб не трапіць на след XI ці XII стагоддзя. Славутыя помнікі архітэктуры прыкрыла аднак пацiна часу, бурлівай гісторыі, і найгоршае — чалавечага нігілізму да нацыянальнай спадчыны. Сафійскі сабор, трэці такога тыпу пасля Канстанцінопаля і Кіева, застаўся толькі ў малюнках і ў кшталце зробленага цяпер макета. Святыня перабудаваная ў XVII стагоддзі ў стылі паўночна-ўсходняга барока ў нічым не напамінае першабытнай архітэктуры. Асталася царква Св. Еўфрасінні Полацкай (Спасаўская), але толькі 2 гады таму назад пачалі вяртаць ёй гістарычны выгляд. Пабудаваны побач яе ў канцы XIX стагоддзя сабор Багаяўлення Гасподняга пару гадоў таму назад служыў яшчэ для гадоўлі свіней. Цяпер, праўда, сцены пабеленыя звонку і ўнутры, але апрача іканастаса нічога яшчэ там няма. Трэба доўгага часу, каб на сценах з'явіліся фрэскі ды іконы. Свята-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр адрадзіўся таксама нядаўна. Цяпер там звыш 30-ці манашак, у якіх надзея, што вернуць Полацкай зямлі патрачаныя духоўныя вартасці.

Драўляная і каменная архітэктура горада аднолькава патрабуюць гаспадара. Гэты старажытны горад з'яўляецца матэрыяльным доказам злачынства камунізму і яго маральнага банкруцтва. Сэцэсійныя камяніцы перамешаныя тут са сталінска-брэжнеўскай архітэктурай, так што хаваюцца яны сярод вульгарнага монументалізму і балаганных форм тыповых для будаўніцтва „развітага сацыялізму". Старога горада проста няма.

Антычнасць мясцовасці ў кожнай краіне была б выкарыстана як турыстычны атракцыён. Туды б запрашалі гасцей з цэлай краіны і з замежжа. Стваралі б умовы лягчэй выдаваць грошы ў гэтым горадзе. А што тут маем? У звыш статысячным горадзе толькі адзін гатэль, якога адміністрацыя працуе як у найлепшыя гады Савецкага Саюза. Калі ўжо чалавек атрымае „візу" ў адпаведны нумар, узнікае праблема знайсці этажную, якая дасць ключ. Але цераз гадзіну знайшлі мы нейкую маладую жанчыну, якая дзесьці цяжка „працавала" на славу „родины". Шок прыходзіць, калі ўжо ўрэшце ўдасца адкрыць дзверы нумара. Хаця была адпаведная электраўстаноўка, не было лямпак, у туалеце поўным цiскам лілася гарачая вада, да паржавелага душа страх было дакрануцца, каб той не разваліўся, а падлога ўжо з месяц не бачыла мокрай анучы. Шчасце, што Сакрат Яновіч адзначаў свой дзень нараджэння. Пакуль прадыскутавалі мы ўсе экзістэнцыялізмы, фаталізмы, камунізмы, імперыялізмы, літарасізмы і іншыя *-ізмы*, была ўжо трэцяя раніца і нават стог саломы здаўся б тады гатэлем першай катэгорыі.

Увечары, аднак, на панадворку пры ўваходзе ў царкву Св. Еўфрасінні быў адслужаны малебен у гонар беларускіх першадрукароў. Прысутны мітрапаліт Менскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт і міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч сказалі з гэтай нагоды кароткія прамовы, прыпамінаючы ўклад слаўных палачан у развіццё еўрапейскай культуры. На цэнтральнае святкаванне з удзелам мітрапаліта сабралася каля 100 чалавек з Полацка, у тым пару дзесяткаў мясцовых урраднікаў. Народ справай не цікавіўся, а можа нават і не ведаў, што ў іх горадзе адбываецца нейкае святкаванне, бо інфармацыі амаль нідзе я не бачыў.

# КУДЫ ІДЗЕ БЕЛАРУСЬ?

### Манастырская кухня

Пасля малебна гасцей з Менска і паломнікаў епіскап Полацкі і Глыбоцкі Глеб запрасіў на манастырскую вячэру. Гадзіну пасля хацелася сказаць, што кожны разважны чалавек павінен так харчавацца, як манахі і манашкі. На стале былі простыя стравы з капусты, морквы, яблык, кашы, кампот з груш і вельмі смачныя несалодкія булкі. Вячэру з'елі мы амаль у маўчанні, не спяшаючыся, у нейкай містычнай атмасферы. Незабыўнае ўражанне.

### Свята ў горадзе

4 верасня ў цэнтры Полацка на плошчы Францішка Скарыны адбываліся цэнтральныя святкаванні Дня беларускага пісьменства і друку. З Менска прыехала 5 аўтобусаў спецыялістаў па спевах і танцах. Прыехаў таксама доўгі картэж легкавых аўтамабіляў з найвышэйшымі дзяржаўнымі ўраднікамі, паэтамі ды аўтарытэтамі ў галіне навукі. Каля помніка Скарыны гербы гарадоў — цэнтраў асветніцтва і друку ў Беларусі — Брэста, Нясвіжа, Турава, Оршы, Полацка, Мсціслава. Вакол аграмаднай плошчы стаялі прылаўкі з кніжкамі, цукеркамі, вельмі салодкім пячэннем і вырабамі народнага мастацтва. Людзей аднак не было зашмат, магчыма таму, што святочныя гульні арганізаваліся таксама ў парку, на стадыёне і каля Музея беларускага кнігадрукавання. Даўгаватыя прамовы, падчас якіх па чарзе выступалі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, пісьменнік Іван Чыгрынаў, намеснік міністра культуры Генадзь Бураўкін, пісьменнік і публіцыст Барыс Сачанка, епіскап Полацкі і Глыбоцкі Глеб і гісторык Вольга Краско на тэму беларускага пісьменства, друку ды і наогул адраджэння беларускай культуры, занудзілі рускамоўную публіку. Мала хто слухаў гэтыя даклады. Людзі хадзілі, размаўлялі паміж сабой, адчувалі сябе, як на фэстыне. У мяне склалася ўражанне, што большасць публікі нават і не ведала, з якой нагоды такі рух у іх горадзе. Кругом было весела, ігрaла музыка, артысты выконвалі народныя танцы. Святкавалі затым.

Хаця была гэта нядзеля, усе прадуктовыя крамы былі адкрыты. Масла, сыр, хлеб, каўбаса, жыгулёўскае піва, гарэлка, віно мясцовай прадукцыі былі ў неабмежаванай колькасці. Цэны толькі трошкі меншыя, чым у Польшчы. Але калі хочаш, напрыклад, купіць сыр і не маеш з сабой паперы, атрымаеш кавалак проста ў рукі. Большая драма ўзнікае, калі спатрэбіцца табе масла. Упакоўкі на харчовыя прадукты, асабліва ў правінцыяльных гарадах, амаль зусім няма. Найгоршае тое, што людзі прывыклі да такой эстэтыкі і нікога гэта не абурае. Ненармальнасць стала нармальнасцю. І спатрэбіцца яшчэ шмат гадоў, адкрытых межаў, новага заканадаўства, каб змяніць гэтую рэчаіснасць.

Дні беларускага пісьменства і друку так у сапраўднасці святкавалі людзі, якія на штодзень жывуць гэтай праблемай — журналісты, пісьменнікі і адказныя за гэтую дзялянку грамадскага жыцця ўраднікі. А можа і так быць павінна?

**Яўген Мірановіч**

# Канада можа быць узорам

Праблемы нацыянальных меншасцей выступаюць сёння амаль ва ўсіх дзяржавах. У некаторых краінах цяпер пра іх ціха, хаця ніколі невядома, як доўга такая цішыня будзе трываць. Аднак у многіх краінах працягваюцца вострыя змаганні нацыянальных меншасцей за свае правы. На жаль, сучаснасць багатая ў такія здарэнні і, відаць, па гэтай прычыне аб правах меншасцей гаворыцца ў апошні час вельмі многа. Трэба аднак заўважыць, што многа гаворыцца аб правах меншасцей у сэнсе юрыдычным, а замала ў сэнсе маральным. А гэты аспект справы, па-мойму, важнейшы, хаця і больш складаны. Ён вымагае шырокага грамадскага разумення праблемы аднолькава як з боку меншасці, так і нацыянальнай большасці ў данай дзяржаве. Большасць, як правіла, займацца гэтым не хоча, бо яе гэтыя праблемы не пякуць. З другога боку меншасць часта дэманструе крайнія і радыкальныя погляды якраз таму, што гэтыя праблемы аж надта яе турбуюць. Справа аднак патрабуе поўнага, але і спакойнага падыходу. Дапамагчы ў гэтым можа шырокае вывучэнне праблемы, да чаго між іншым вядуць добрыя ўзоры.

Здаецца мне, што Канада можа быць тым узорам, асабліва з-за эвалюцыйнага падыходу да справы. У ёй нацыянальныя меншасці — гэта даволі вострая і важная праблема. Канада паўстала ў 1763 г. як брытанская калонія, у якой пачаткова кіравалі толькі брытанцы паводле брытанскага закону, без намеру змяняць яго па волі іншых нацыянальнасцей. А жылі тут ужо індзейцы і французы. Вялікія пустыя прасторы не маглі аднак доўга заставацца неабжытымі, а на іх пасяленне не хапала брытанскіх добраахвотнікаў і зняволеных ссыльнапасяленцаў. Сталі прыбываць немцы, якія пачаткова вельмі ахвотна тут прымалі. З часам усякія судовыя і службовыя справы патрабавалі дапусціць да ўжытку і іншыя, чым англійская, мовы. Да 1914 года афіцыяльнымі мовамі сталі таксама французская і нямецкая; апошняя перастала ёю быць з часу першай сусветнай вайны, калі Канада выступіла разам з Вялікабрытаніяй процю Нямеччыны.

Пад канец XIX ст. Канада пачала засяляць свае цэнтральныя і заходнія, так званыя стэпавыя, правінцыі. Умовы тут былі вельмі дрэнныя і таму трэба было арганізаваць прыезд жыхароў цэнтральнай Еўропы, якія і ў гэтых дрэнных абставінах хацелі б жыць. Асабліва з Аўстра-Венгрыі ахвотна тут прыязджалі ўкраінцы, у меншай колькасці палякі і іншыя нацыі. Кінутыя ў пустыя стэп прышэльцы будавалі ў цвёрдых і строгіх умовах свае „гомстэды" (*анг. homestead)*, не ведаючы англійскай мовы, якая была тут адзінай афіцыяльнай. Іх першым душэўным жаданнем было мець сваю царкву ці свой касцёл, такія як у сваёй роднай вёсцы. Пачаткова нялёгка было дасягнуць гэтую мэту. Але калі царква ці касцёл ужо былі — пры іх гуртавалася не толькі рэлігійнае, але гэтаксама і культурнае жыццё. Пры царкве і касцёле арганізавалі нацыянальныя школы і калі з часам многія пасяленцы пакідалі „гомстэды" і перяязджалі ў гарады, там таксама толькі пры царкве ці касцёле арганізавалі сваё культурнае жыццё. Па сваім характары царква і касцёл сталі нацыянальнымі. Палітычная дзейнасць прыйшла пазней і развівалася ўжо на глебе ў большай меры падрыхтаванай нацыянальным удзеяннем царквы ці касцёла. Найлепшым узорам грамадска-палітычнай спеласці можа быць украінская меншасць, якая ў складаных умовах пастаяннай цярплівай працай і стойкім змаганнем дабілася сваіх дэпутатаў у правінцыяльных і ў агульнадзяржаўных парламентах. У апошні час генеральны губернатар Канады, які прадстаўляе брытанскую каралеву, гэта таксама ўкраінец.

У пачатках сваёй дзяржаўнасці Канада прыняла прынцып поўнай культурнай асіміляцыі ўсіх жыхароў, зыходзячы з таго, што яна — краіна поўнасцю брытанская і ўсе жыхары павінны паступова прыняць англійскую мову, культуру і гісторыю. Аднак ужо ў XIX ст. трэба было прызнаць англа-французскую двухмоўнасць і двухкультурнасць. І фармальна прынцып англа-французскага двухмоўя і двухкультурнасці абавязвае і сёння, аднак некаторыя палітычныя партыі ўжо ў сваіх праграмах абвяшчаюць, што Канада — гэта шматнацыянальная дзяржава, а яе культура — вынік працы і культурных здабыткаў многіх народаў, якія жылі тут у мінулым і якія цяпер таксама працягваюць жыць. Прынцып асіміляцыі абмяжоўваецца цяпер толькі да грамадскага прыпадаблення, а не культурнага зліцця.

Як глыбокія з гэтага вынікнуць перамены — пакажа час. Мабыць, паўстануць нават дзяржаўныя нацыянальныя школы. Пакуль што навука роднай мовы для нацыянальных меншасцей адбываецца толькі пры касцёлах і цэрквах у выглядзе дадатковых заняткаў.

**Уладзіслаў Клімэк**

<u>Пасля прэс-канферэнцыі</u>

# ЯКІ ЛІЦЭЙ?

У пятніцу 9 верасня ў памяшканні БГКТ у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя, наладжаная аргкамітэтам святкаванняў 50-годдзя Бельскага ліцэя з беларускай мовай навучання.

Як усім вядома, мовай навучання ў гэтым ліцэі з'яўляецца польская мова, а беларуская застаецца ў ім толькі як прадмет. Натуральным чынам выклікала гэта пытанні польскіх журналістаў, ці такую школу можна яшчэ лічыць нацыянальнай.

На маю думку, адказ на гэтае пытанне дае праф. Ян Чыквін у апошнім „Часопісе". Паводле ягоных даследаванняў, толькі кожны чацвёрты выпускнік бельскага ліцэя лічыць сябе беларусам. Больш за палову лічаць сябе палякамі. У падобным ліцэі ў Гайнаўцы вынікі атрымаліся для нас крыху лепшыя: там хаця трэцяя частка абітурыентаў гэта беларусы.

На маё пытанне, якія меры прымуць бельскія педагогі, каб змяніць гэтую трагічную сітуацыю, адказ практычна не паступіў. Высветлілася толькі, што не плануецца ўвядзенне навучання іншых прадметаў на беларускай мове.

Прысутны на прэс-канферэнцыі былы дырэктар ліцэя, Аляксей Карпюк, галоўны стратэг школьнай палітыкі ў апошнія дзесяцігоддзі, сцвердзіў, што не было іншага выхаду, як павышаць агульны ўзровень навучання коштам адыходу ад беларускай мовы. Прывёў пры тым як прыклад памылковай палітыкі літоўскі ліцэй у Пуньску, з якога ў 1970 г. паводле яго, ніхто не

*Працяг на стар. 8*

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ*
*№ 417*
*Рэдактар Сакрат Яновіч*


*Барыс Руско*

## Збоч

**1**

У каменных джунглях на поўныя грудзі
дыхаюць пацукі.
І зладзейская поскудзь.
І дзеці лёгкай маралі.
І цвіль.
Па вуліцы крочыць пружыніста Дог.
За ім, на прывязі, дрыпае пан.
Лепячы ў мроях крылатага Фаласа,
цнатлівая дама адводзіць вока
ад шыльды „sex show".
Фартуну глытае дзіравы мозг.
А рулетка віруе, віруе.
І вароны ведаюць — іх звалка.
А тлуму — гімн і барадаўку ў вока.

**2**

У засеку снапы лічбаў
і лічбы зерняў.
Да вачэй скача сцябло вусатае.
А малацьба гарачая.
І кіслае малако нарасхват.
Сусед умее лічыць кроплі поту.
Умее, бо быў такі час.

**3**

Дождж падае мякка,
не абудзіць зямлю.
А грыбы прачынаюцца папіўшы.
Пасмутнела сёлета зелень.
Відаць, ад збытку пачуццяў.
А магчыма ў вачах іншы від.
На сухой галіне хліпае птушка.
Плача па мёртвым дрэве.
А кот смяецца да ўпаду,
да болю чужога не ў пашане.

**4**

У аўтобусе вісеў горкі дакор.
Святоша давала ў косць героям
кнігі. За распусту.
Кніга карабацілася бескампрамісна.
Ляжаць покатам зваленыя словы.
А чыя рацыя? Не ведаю.
Разам сышлі на канцавым прыпынку
— святоша і кніга.
Дзяўчына мела нешта з Жанны д'Арк,
а кніга — з Шэкспіра.

**5**

Санітарны поезд, як паранены,
уецца па вышчарбленых рэйках.
На ўзбочыне жабруе бязногі салдат.
То плата за бой.
А палкі наступаюць упарта.
А смерць камандуе беззаганна.
А дзяўчына крычыць у бязлітасны
пейзаж.
А рот заткнуў белы туман.
Па мёртвых не плачуць,
плачуць па жывых —
што месца не будзе на магілы.

*Міра Лукша*

## фрэска

*Уладзіміру Ракіцкаму*

ты хто адкрываеш каменную кветку
адплюшч яе пялёсткаў ціш
вечнай сваёй павекай і хвіліннай
на воку майстра ад стагоддзяў

*Віктар Варашыльскі*

## З гутарак 1955: Гісторыя

**I**

Не, я не настолькі наіўны,
каб папракаць гісторыю,
бы чыноўнага пузача,
у непрыстойных паводзінах.
Я ведаю: не будзе яна біцца
ў свае папяровыя грудзі
і ніхто не сашле яе
ў правінцыйную глыбінку
на пасаду без значэння.

Але, не настолькі я і зазнаўся,
каб даў рады, бы той ненароджаны
будучы эрудыт,
пазіраючы з вышыняў дасягнутае мэты
ўніз,
бачыць толькі простую і гладкую, бы
газетная паласа,
правільнасць. Бо глянуўшы ўніз
угледжу
мурашнік часу нашага блытаны
ды й сябе
і людзей спакутаваных
не заўсёды дарэчна правільна.

Ані настолькі я бестурботны,
каб усякую рэальнасць успрымаць
як нешта добрае і непазбежнае таму
толькі,
што рэальная яна.

Ані ўрэшце не настолькі падатлівы я,
каб пагадзіцца, што адзіна праўдзівы,
буравесныя і беспамылковыя,
і што не мы гэта штохвілінна ствараем
гісторыю:
неабавязкова ваюючы, будоўлі
ўзводзячы пад неба,
але таксама
гаворачы
або
маўчучы.

**II**

Таму гэта
ўздрыгваюся часам,
бунт падымаю супраць гісторыі
і ў гутарках нават з тымі,
хто па-стальному нязломны
душыць і не дае дыхнуць,
горыч сваю не таю.

І таму
не палю гарачку,
бы той бухгалтар фірмы
за ноч да рэвізіі,
каб баланс сумлення быў добры,
пяром сафізму выскрэбваючы
выдаткі дапушчаных памылак
і правінаў
трагічных.

Таму гэта
адмаўляю ў пашане тым,
хто крычыць: „маральны крытэрый
не мае значэння ў гісторыі" — каб
прыхаваць
уласную маральную абыякавасць.
А з тымі, што поўныя добрай волі
тлумачаць жаданы супакой
ад забыцця,
спрачаюся да сіпаты.

**III**

Бываюць усё ж мінуты
прымірэння з гісторыяй,
якая паказвае нам
ужо не халоднае, няшчаднае
аблічча Бога Незваротнасці,
а чалавечы твар
спагаднасці, супольнай разважлівасці,
у вяртанні парадку
рэвалюцыйнага.

Цяпер якраз надышла такая часіна
радасная бясхмар'я,
калі ажываюць дастойныя таго
імёны, асобы,
зрок наш падае ў іх чыстыя зрэнкі —
і ў кожным з нас нешта ажывае.

Калі адкінулі містыфікацыю,
выявілі слабасці,
гуртуюць адзіна пераможныя сілы:
не з мацаты шумных словаў, пустых
замашак —
з мацаты свядомасці,
ушанаванага даверам,
верачага адзін аднаму
чалавека.

У такую часіну
не падкошваюцца ногі, бы ў служкі
якога,
не прысягаю для гісторыі назаўжды
пакорлівай паслухмянасці.
Але —
я, які апяваў яе, не завельмі ведаючы,
словам трубным, неадступна
грымотным,
пасля ўсумніўся
і зноўку даверыўся, пільна зважаючы,
у такую хвілю апяваю яе
гэтым стрыманым і цвярозым вершам.

**Пераклаў Сакрат Яновіч**

*Альжбета Казлоўская-Саянткоўская*

* * *

няхай цябе вядуць
пазелянелыя каплічкі
палявы камень
Млечны шлях
і не асуджай нікога
ў апошнюю гадзіну

* * *

у сапраўднасці была я
упэўненая ў любві
да прарокаў, зямлі

ахутваеш у пальцах пралескі

асцерагайся
добразычлівай дабрадушнасці

* * *

прызываеш мяне

будзь мне
першым кінутым позіркам
і канцавым святлом

сяброў маю ўдосталь

**Пераклаў Віктар Швед**

Рыс. Міколы Давідзюка

*Іаган Вольфганг Гётэ*

## Праметэй

Пакрый сваё неба, Зеўс,
Імглой хмараў чорных
І буяй, як хлопчык,
Які сячэ бадзяк;
Дубоў і гор разломвай вяршыні!
Усё ж не ў сілах ты, аднак,
Маю разбурыць зямлю;
Хаціну, якую не ты будаваў,
І мой ачаг,
Полымя якога
Тваю запаліла зайздрасць!

О багі! Бяднейшых за вас
Не бачыў я пад сонцам.
Вялікасць вашая ўзгадавана
Вартай жалю данінай ахвяр,
Дымам алтарным
Ды й жывеце вы адной
Вечнай надзеяй дурняў —
Дзяцей і ўбогіх.

Быў і я калісьці дзіця,
Свету спасцігнуць не мог
І вокам блукаючым
Пазіраў на сонца,
Як быццам над ім хтосьці быў,
Хто скаргі пачуць мае мог,
Чыё сэрца спагадала б таму,
Хто жорсткі церпіць прыгнёт.

Хто ж мне памог у барацьбе
Супроць гордых тытанаў?
Хто ж мяне выратаваў ад немінучай
Няволі і смерці?
Ці ж не ўсё гэта здзейсніў ты,
Святы мой дух?
А ў дабрыні юнацкай
Аддзякваў ты за ўсё ж
Санліўцу ў нябёсах!

Мне цябе шанаваць? За што?
Ці ж уціхаміраў хоць з раз ты
пакутніка
Мукі?
Абцёр слязу
Запалохванаму?..
Непахіснасць маю
Загартоўвалі
Час усемагутны
Й спрадвечны лёс —
Мае й твае ўладары.

Магчыма, толькі і мроіш аб тым,
Каб я зненавідзеў жыццё,
У пустыню ўцёк,
Калі не здзейсняцца ўсе
Сны майго сэрца?

А я вось тут сяджу,
На лад свой схіляю людзей,
Род такі, як я,
Які пакутуе й цешыцца,
Й раняе слязу,
Табе непакорны аднак,
Як і я!

**З нямецкай мовы пераклаў Юры Трачук**

*Юзэфа Драздоўская*

## У царкве на Ліповай

*Мажэне Кавальскай*

Ля царквы прысеў
бацюшка вечар
і пад адзінай там лямпай
перабірае пацеркі
на ружанцы
з ліп
У паўцені выглядае
як святы Сяргей
ці малады
святар
Падыходжу просячы аб малітву
за Цябе
дае ён мне галінку
з дрыжачым лістком
а я не ведаю
што мне з ёю зрабіць
як тады калі малады святар
з усмешкай святога Сяргея
шукаў нам іконкі
Матушкі Уладзімірскай
акінуўшы нас употай позіркам:
ці праваслаўныя?

3.II.1990 г.

**Пераклаў Віктар Швед**

*Міхась Андрасюк*

## Недарэчныя аповесці

Калі зорнае неба хаваецца недзе ў воблачныя кішэні, а змораныя лунацікі ўвальваюцца ў сон, прачынаецца сляпое паўшар'е месяца. З цесных закавулкаў выпырхваюць птушкі — пасмяротнікі разгромленай дубровы; таксама жабы з асушаных балотаў і матылі, што жывуць між болем цела і радасным крыкам душы.

Неяк рассядаюцца навокал месячнага вогнішча і прадуць свае недарэчныя аповесці.

## Свіння

Сусед суседу падкінуў свінню.

І калі б падкінуў ён яе культурна... Ды не!

Падкінуў жа сваю свінню па-свінячаму, абышоўшы ўсякія правілы добрага выхавання, паводле якіх перш трэба каменьчык кінуць у чужы агарод, потым выкапаць ямку, каб хто нагу скруціў у ёй, ды выканаць яшчэ некалькі абавязковых у лайдацкім кодэксе дзеянняў.

Але, сусед не паказаў сябе настолькі асвечаным. Заявіў ён у паліцыю, што ўкралі яму свінню, і што зрабіў тое, няйначай, ягоны сусед, вядома.

Прыйшоў паліцыянт, трохі параззглядаўся, і кінуў следства, а ўзяўся не за свінню...

Людзі даўно ведаюць, што ў злодзея шапка гарыць на галаве. А тут нікому і нішто не гарэла, толькі ў западазронага суседа дымок капціўся з-пад вушанкі, але зусім не ад крадзежніцтва, а з перапою самагонам, якога акурат нахлябтаўся быў. Службовы паліцыянт адразу знюхаў гэта і сусед сеў у турму, а свіння знайшлася потым на агародах, дзе рыла і начавала. Каб не яна, падла ліхое, то ніхто пакражы не шукаў бы і сусед спакойна піў бы, а так аднае бяды на двух хапіла.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*Хор з кленіцкай школы.* Фота Міколы Ваўранюка

## КАСТРЫЧНІК

На гліняным посудзе-календары, што быў зроблены на славянскай зямлі ў IV стагоддзі новай эры, гэты месяц пазначаны прамымі вертыкальнымі рыскамі. Дождж? Сумная пачынаецца пара... Прырода замірае, светлавы дзень скарачаецца. Невядома, як бы мы цяпер вызначылі час такой парой, каб раптам пазбавіліся календароў, гадзіннікаў? Ці змаглі б знайсці нейкую з'яву ці прыкмету? А для нашых продкаў, назіральных і кемлівых, такой праблемы не існавала, як не было і пары, калі быў спакой жаночым рукам. У кастрычніку браліся за лён, што вылежаўся на сарака росах. Прыходзіла пара церці даўгунец. Пасмы льну, мабыць, тыя вертыкальныя рыскі...

Невыпадкова беларускія жанчыны падчас трох важнейшых паганскіх святаў, якія супадаюць з зімовым і летнім сонцаваротамі, вясновым раўнадзенствам, выконвалі абрады, звязаныя з ільном. (Можна нават гаварыць пра культ ільну!) На куццю выцягвалі травінкі з пасланага пад абрусам сена — варажылі, ці вырасце доўгі лён. На Уласе (Масленіцу) спецыяльна ездзілі на санях як мага далей, каб лён быў даўжэйшы. А на Купалле дзяўчаты і маладзіцы кідалі ў вогнішча бярозавыя галіны і прыгаворвалі: „Каб мой лён быў такі ж вялікі, як гэтая бярэзіна!" А руплівыя жаночыя рукі палолі палеткі льну, церабілі, абмалочвалі, рассцілалі і церлі.

Невыпадкова, відаць, і цёплыя дні, што надараюцца звычайна ў другой палавіне кастрычніка, назвалі „бабіным летам".

Здзіслаў Сіцько

*Арсен Расцветнікаў*

## ВЯРШАВАНЫЯ ЗАГАДКІ

* * *

Самалёту-драбязе
дружна шлюць праклёны ўсе.
Не відно яго было,
праз хвіліну, як на зло,
быццам тоненькая ніць,
рухавік яго звініць.
Нездарма нягоднік той
звонка кружыць над табой:
на руку садзіцца,
каб крыві напіцца.
Сеў-такі, а тут — удар!
Адзвінеў свае.....

* * *

Ёсць у мяне вартаўнічок стары —
як толькі ноч апусціцца ў двары,
налева ён павернецца цішком
і аж да ранку сцеражэ мой дом.
Калі ж у горад крочу раніцой,
вартаўнічка заўжды бяру з сабой,
і ён тады — вось гэта дзіва! —
зноў дом ахоўвае маўкліва.
.....

* * *

Калабочак-кулачок,
быццам сонца, ззяе бок,
а ўнутры пасялі ў рад
сем каменьчыкаў-блізнят.
Гладкі-гладкі — у руках
і салодкі — на зубах.
.....

### Адгаданкі „Падарожжа..."

**Аперацыя „А".** *З трыма вядомымі: Саманта, Варвара, Агата, Тамара, Рамазан, Салават, Мамлакат, Апанас, Машанька, Наташа, Абраша, ламара, Галачка, Адарка* і інш. *Машара, Панчанка, Баталаў, Хагарда, Аксакаў, Казанцаў, Сачанка, Разанаў* і інш. *Сведкі па Геаграфіі: Карачай, Наманган, Камчатка, Магадан, Абакан, Ашхабад, Ангара, Анапа, Варшава, Гаага, Масандра, Гавана, Сахара, Канада, Парагвай, Самарканд, Атава, Арарат* і інш. *Гагара, казарка, касатка, макака, фаланга, андатра, аграмак, сабака, камбала, кабарга, сагайдак, навага, салака* і інш. *Лаванда, сарана, агава, карагач, асака, ананас, салата* і інш. *Адпраўка, абкатка, абмазка, насадка, атака, аблава, адплата, асада, аддача* і інш. *Аладка, салата, каравай, мачанка, баланда, кайнатма, смажанка, памадка, саматай, лазанка, каўбаса* і інш. *Казарма, палата, палатка, альтанка, каланча, байдарка, самавар, апарат, барабан, канапа, панама, малахай, тарантас, шаланда* і інш. *Караганда, Махачкала, Алма-Ата, Кандалакша, Балаклава, Атакама, Джалал-Абад* і інш.

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

### 17
### ЗНАЁМСТВА З КАРАЦУПАМ

Размаўляем, больш слухаем, не менш за гадзіну. І што далей, то цікавей. Мікіта Фёдаравіч Карацупа ўзначальвае службу расшукных сабак на мяжы. Не дужа гаваркі, прыветлівы. Як быццам адчувае, пра што будзеш пытацца, пачынае сам, нібыта і яго гэта вельмі цікавіць. Так узнікаюць давяральныя, можна сказаць, сяброўскія адносіны.

Знаёмлюся з ягоным Інгусам. Не з тым, самым першым, якога ён выгадаваў з выпадкова падабранага шчанюка. Тады стаяла пагроза адкамандзіравання з пагранічнай школы: у яго не было сабакі. А што ж ты за пагранічнік без разумнага сабакі?

Карацупа пасміхаецца:

— Разумны хвост — гэта наш жаргон. Я паўгода цукру не каштаваў, усё — яму. Знайшоў, сляпога, пад мостам. Рос туга, худы, нягеглы. Колькі кпін давялося перацярпець. Дзякуй начальству — паверыла, не адкамандзіравала.

Калі памочнік вырас, на рызыкоўныя, амаль неверагодныя затрыманні хадзіў з ім Мікіта Фёдаравіч. Шкада, рана загінуў, падстрэлілі пры сутычцы. Мала паслужыў і яго наступнік, новы Інгус. З морды і паставы акурат такі самы, як і той, таму і быў ахрышчаны традыцыйна.

Прысутнічае пры нашай размове на кватэры ў Карацупы чарговы службіст. Далікатна трымаецца каля гаспадаровай нагі: не відзен і не чуцён. А бразнуць дзверы ў пад'ездзе або госць ледзь-ледзь павысіць голас і — падымаецца галава, вушы насцярожваюцца.

З'явіўся ён на нашу размову адменным чынам. Мікіта Фёдаравіч пазваніў у гадавальнік, дзяжурнаму:

— Пакліч мне Інгуса.

Неўзабаве з другога боку провада даляцела прывітальнае павіскванне.

— Інгус! — загадаў Карацупа. — Бяжы зараз да мяне і вазьмі павадок. Павадок, чуеш? Але не кароткі, а доўгі. Чуеш? Годзе, годзе, дома абдымемся.

Я не мог схаваць засмучэння, і ў мяне ж быў звычай: вярнуўшыся дамоў, абдымацца з Дзікам. І хоць размова тачылася далей, Карацупа, чалавек назіральны, раптам спытаў:

— У вас непрыемнасці? — Выслухаў маю бяду і дадаў: — Разумею, разумею. Я пазнаў у вас сабачніка.

Памаўчалі.

— Так, хлопец вам трапіўся з галавою. Нечым нагадвае майго першага Інгуса. Магу вам даць аднаго сабачку, добры. Праўда, злаcнаваты крыху. Пойдзем, паглядзіце.

Я вяртаўся ў гасцініцу зачараваны: такі просты, абыходлівы. А ў яго на рахунку было тады больш за паўтысячы затрыманняў, кожнае з рызыкай для жыцця. У лясных нетрах, на горных схілах, у хвалях быстрых і халодных рэк даганяў, абяззбройваў лазутчыкаў.

З часам гэтаму, сапраўды заслужанаму чалавеку змянілі пагоны на генеральскія, ён стаў Героем Савецкага Саюза.

Тады ж у Гродне ён сказаў, развітваючыся:

— Падумайце, як быць. І я падумаю, можа, яшчэ што набяжыць...

Спакуса атрымаць выхаванца самога Карацупы была вялікая. Дый пёс у гадавальніку спадабаўся: чорны са спіны, рудыя падпаліны на грудзях і не лапы, а лапішчы, тоўстыя, спружыністыя. А ў вачах чыталася: перад табою непадкупная сабачая душа.

А як жа хатні? Ён жа свой, можна сказаць, сямейнік, ласкавы і ў той самы час гатовы рынуцца, не даць цябе ў крыўду.

Праўду казаў Карацупа: ёсць пра што падумаць. Не, гэта нікуды не варта! Як можна думаць пра нейкую замену!

Раншнія перамовы з Мінскам адагналі ўсе сумняванні. Я пазваніў Карацупу: хворы павесялеў, пад'еў гарачага, спрабуе хадзіць, нават просіцца на двор.

— І дзякуй Богу! — пачулася з тэлефоннай трубкі. — А той, што я нагледзеў вам, — у-у, сур'ёзны пёс! Трэніраваны на аднаго гаспадара, ніхто іншы не падыходзь. Калі б я вам перадаў ягоны павадок, значыць, права на загад, ён бы рваў мяне. Дарма, што я карміў, лашчыў, навучаў... Загад ёсць загад.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**1**

*(працяг з 25 нумара)*

**Аперацыя „А"**

Падобныя назвы часцей за ўсё маюць розныя дэтэктыўныя гісторыі ў літаратуры і кіно. Мы ж маем справу са словамі, і тым не менш, як сапраўдным дэтэктывам, трэба будзе весці пошукі, праводзіць назіранні, выбіраць з многіх магчымых адно; часам, магчыма, памыліцца і самім жа выпраўляць свае памылкі.

Аперацыя „А" складаецца з некалькіх этапаў, кожны з якіх мае свае мэты і сваю назву. Першы этап называецца:

З т р ы м а  в я д о м ы м і .

Для пачатку паспрабуем запісаць імёны, мужчынскія і жаночыя, пра якія пакуль што вядома толькі, што ўсе яны — трохскладовыя. Значыць, маюць па тры галосныя — тры *а*. Можна запісваць і поўную, і памяншальную формы. Запісы робіцца ў слупок на лістку паперы ў клетачку — такая папера спатрэбіцца нам на працягу ўсёй аперацыі.

Імёны запісалі? Калі атрымалася мала, няхай гэта вас не бянтэжыць. Адкладзіце пакуль лісток — вернецеся да яго, калі ўспомніце або адшукаеце ў даведніках новыя імёны: сапраўднае дэтэктыўнае расследаванне доўжыцца часам не толькі днямі, але і тыднямі.

Цяпер трэба яшчэ запісаць і прозвішчы. Гэта будуць прозвішчы асаоб, якія маюць прамое дачыненне да стварэння выдатных твораў літаратуры і мастацтва. Умова тая ж — тры *а*.

С в е д к і  а д  Г е а г р а ф і і

Пра аперацыю „А" даведалася гаспадыня Геаграфія. Яна заявіла, што мае пэўнае дачыненне да гэтай справы. У яе ёсць і сведкі. Толькі жывуць яны ў розных месцах, і трэба іх адшукаць. Што ж, калі неабходна для справы, значыць — будзем шукаць. Для аблягчэння работы згрупуем усіх сведкаў:

назвы на карце свету;

назвы жывёльнага свету;

назвы раслiннага свету;

назвы вытворчых працэсаў і дзеянняў;

назвы страў і кулінарных вырабаў у розных народаў;

назвы збудаванняў, памяшканняў і прадметаў бытавога карыстання.

Ва ўсіх словах тры склады — тры *а*.

Яшчэ не ўсе сведкі былі знойдзены, калі ўвайшоў паштальён з ладным рулонам пад пахай і сказаў:

— Вось, прымайце, загадана даставіць вам тэрмінова. Распішыцеся за атрыманне.

Ён пайшоў, а мы раскруцілі рулон і — спачатку нічога не зразумелі.

Калі ж прыгледзеліся — гэта пасылка таксама ад Геаграфіі, на ёй ёсць надпіс. Значыць, будзем зноў мець справу з геаграфічнай картай і зноў упэўнімся, што Геаграфія мае-такі дачыненне да аперацыі „А"!

Ну, нарэшце сведкі гаспадыні Геаграфіі далі свае „паказанні". Але да канца распачатай намі справы яшчэ далёка, — наадварот, перад намі



| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | А | | А | | А | | | А | |
| | А | | А | | | А | | А | |
| А | | | А | А | | А | | | |
| | А | | | А | | А | | | А |
| | А | | А | | | А | | А | |
| | | А | | А | | А | | А | |
| | А | | А | | А | | | А | |

паўстала задача, за якую невядома з каторага канца брацца. Справа ў тым, што, пакуль мы працавалі з картай, хтосьці падкінуў у нашу паштовую скрынку запіску, на якой лацінскімі літарамі было напісана: *шэршэ ля фам*. З гэтай запіскай мы пайшлі да нашага Галоўнага дэтэктыва.

— Вы ведаеце, што азначаюць гэтыя словы? — запытаў ён.

Мы ведалі, бо даволі часта сустракалі іх у мастацкай літаратуры і кінафільмах — у перакладзе з французскай мовы яны азначаюць *шукайце жанчыну*. Але ж якая жанчына маецца на ўвазе?

— Вы забыліся, — сказаў Галоўны дэтэктыў, — што, па-першае, мы праводзім аперацыю „А" і што, па-другое, аперацыя гэта праходзіць у межах краіны Мовы.

Вось і ўсё зразумела: у наступным адрэзку будзем мець справу са словамі жаночага роду, паколькі для далейшага правядзення аперацыі „А" трэба „шэршэ ля фам".

*(працяг у наступным нумары)*

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# КОПЫСЬ

Некалі на месцы сучаснай Копысі жылі плямёны, якія займаліся акрамя палявання яшчэ і смалакурствам. Над барамі заўсёды стаяла сінеча едкага дыму. Казалі, што нават даніну князям плацілі смалою ды дзёгцем. Прадукцыя гэта была незаменная і ў гаспадарцы (колы памазаць, човен прасмаліць), і ў вайсковым ужытку (гарачую смалу лілі на галовы ворагаў, у яе абмочвалі стрэлы, якімі падпальвалі аблажаныя гарады, ці налівалі ў гліняныя гаршкі, запальвалі і пры дапамозе кідальных машын шпурлялі ў лагер ворагаў).

Існуе і іншае паданне. Адзін з князёў ехаў з дружынай па ўласнаму княству. Справа ў тым, што гэтаму князю дастаўся княскі стол ад бацькі, і ён яшчэ ні разу не аб'язджаў сваіх уладанняў. Усюды сяляне і гараджане падносілі яму падарункі. Князь быў задаволены.

І вось аднаго разу ўехалі воіны са сваім валадаром у густы лес. Дзень едуць, другі едуць — нікога на сваім шляху не сустракаюць. Сталі ўжо хваляваліся, дзе ж жыхары пахаваліся, чаго іх ніхто не сустракае? Ледзьве ўжо назад не павярнулі, толькі гонар маладога князя не дазволіў яму гэта зрабіць. Нарэшце ажно пад вечар чацвёртага дня дружыннікі ўчулі дым блізкага вогнішча. Узрадаваліся ўсе і скіравалі напрасткі да агню. Калі выехалі на вялікую паляну, то ўбачылі, што там стаяць гаспадарчыя будынiны і працуе шмат людзей. Ніхто не бачыў вершнікаў. Тады адзін з дружыннікаў гучна крыкнуў:

— На калені перад князем!

Людзі паваліліся ніц. Усе былі апрануты ў прапаленыя, брудныя кашулі. Нічога дарыць князю яны і не збіраліся. Разззлаваны валадар запытаўся:

— Хто вы?

Ці то з перапалоху, ці то не зразумелі, мовілі яны ў адказ:

— З... копыці... мы... такія...

— Ну і сядзіце ў копыці... — і князь павярнуў каня.

Пазней іх так і звалі — „копыцці" ці „копысцы", а места — Копысь.

Мовазнаўцы сцвярджаюць, што назва Копысь пайшла ад славянскага слова, якое азначала „чорны пыл", „копаць".

**Аляксей Ненадавец**

# ВЫПАДАК НА РЭЧЦЫ

Пра Мішу і Гену кажуць, што іх вадой не разальеш. Такія сябры. Жывуць у адным доме. У адным пад'ездзе. Нават на адной лесвічнай пляцоўцы. І дня не пройдзе, каб не сустрэліся: то Міша бяжыць да Гены, то Гена да Мішы. Аднаго разу паехалі яны з бацькамі за горад. Стаяў цёплы сонечны дзень. Дарослыя ўладкаваліся ў цяньку на лузе, а Міша і Гена пабеглі да рэчкі.

Цікава было сачыць за хуткімі, як сонечныя промні, рыбінкамі. Усё далей ад берага адыходзіў Міша. А Гена боўтаўся ў вадзе каля самага аеру, дзе мяльчэй.

— Ідзі сюды! — махаў рукой Міша.

Гена асцярожна накіраваўся да сябра. Вада даставала яму да каленяў, і ён спыніўся.

— Не бойся! — закрычаў Міша. — Тут неглыбока!

Але Гена павярнуў назад.

І раптам адтуль, дзе знаходзіўся Міша, даляцеў крык:

— Ра-атуй-це!..

Гена на нейкі міг аслупянеў, разгублены, а потым выскачыў на бераг. Лётам паляцеў на луг, туды, дзе адпачывалі бацькі. Засопшыся, прашаптаў, паказаўшы рукой на рэчку:

— Там... Міша топіцца...

Усе разам, абганяючы адзін аднаго, пабеглі да рэчкі. І з палёгкай уздыхнулі: на беразе, боўтаючы нагамі ў вадзе, сядзеў Міша.

Бацька дакорліва паглядзеў на Гену:

— Ці ж гэтак можна жартаваць?

— Дык ён жа тапіўся, — пачаў апраўдвацца Гена. — Сам чуў, як крычаў: „Ратуйце..."

— Табе падалося, — усміхнуўся Міша. — Калі б я тапіўся, ты кінуўся б мяне ратаваць. Праўда?

Гена пачырванеў і апусціў галаву. З крыўдай падумаў: „Так, я сапраўды разгубіўся там, на рэчцы. Але і ты, Міша, маніш. І мне, і бацькам. Ці ж выпрабоўваюць сяброў?.."

А вы як думаеце?

**Алег Фомчанка**



*Шчырая ўсмешка.*
**Фота Юркі Паплаўскага**

## Вясёлы куточак

Малы Янка атрымаў ад маці 5 тысяч злотых і не падзякаваў.

— Ну, Янка, а што трэба сказаць? — пытаецца маці.

— Ці так сама, як мама кажа, калі бярэ ад таты?

— ?

— „Што, усяго столькі?!"

* * *

— Якога сабакі найбольш баіцца заяц?

— Белага.

— Чаму?

— Бо думае, што той сабака аж да кашулі распрануўся, каб толькі яго дагнаць!

* * *

— Пятрусь, калі твой бацька выканае нейкую работу за гадзіну, а твая маці зробіць тую работу таксама за гадзіну, колькі разам на гэта зыдзе часу? — спытаў настаўнік.

— Пяць гадзін.

— ?

— Бо яны гадзіну рабілі б, а чатыры — сварыліся б.

*Падборку зрабіў*
**Янка Падарожнік**

# ЛАГАГРЫФ




1. сталіца Расеі, 2. частка расліны, якая знаходзіцца ў зямлі, 3. вылучэнне склада ў слове павышэннем голасу, 4. на шыі, 5. прыбор, якім запісваецца кіна- або відэафільм, 6. напітак з ягад.

Рашэннем будзе прозвішча выдатнага аўстрыйскага кампазітара, які жыў у XVIII стагоддзі.

Адказаў чакаем два тыдні. За правільны адказ можаце выйграць кніжную ўзнагароду.

<u>НАШЫ ГУЛЬНІ</u>

# „Кветнік"

М э т а  г у л ь н і. Замацоўваць веданне назваў кветак, выхоўваць уважлівасць, хуткасць мыслення.

З м е с т. У гульні ўдзельнічаюць каля 10 чалавек. З дапамогай лічылкі выбіраецца „садоўнік". Астатнія дзеці выбіраюць сабе назвы розных кветак.

„Садоўнік" пачынае гульню: „Я быў у садзе, там растуць розныя кветкі. Не было там толькі ружы". Той, хто выбраў сабе назву ружы, хутка ўстае і кажа: „Ружа ў садзе расце, а вось касача няма". „Касач", у сваю чаргу, павінен сказаць: „Касач у садзе расце. Там няма півоні" і г.д. Той, хто забудзецца назвацца або адкажа не ў свой час, або назаве тую кветку, якой няма, плаціць фант. Потым фанты разыгрываюцца.

Гульню можна правесці на класіфікацыю садовых і палявых кветак, грыбоў, садавіны і агародніны.

# ВІЛЬНЯ — ГІСТОРЫЯ, МІФЫ І СУЧАСНАСЦЬ

У днях 14—17 верасня ў Беластоку праходзіла II Міжнародная канферэнцыя „Вільня і паўночна-ўсходнія крэсы". Арганізатарамі былі Філіял Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Злучнасць „Вспульнота Польска", Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку, Політэхніка беластоцкая, Польскае радыё „Бялысток" і некалькіх менш вядомых устаноў. У канферэнцыі ўдзельнічала каля 150 навукоўцаў з 12 краін свету і ўсіх навуковых цэнтраў Польшчы. Зачытаных было звыш 80-ці дакладаў па гісторыі, літаратуры, культуры, мове палякаў, якія жылі на г.зв. паўночна-ўсходніх крэсах. Толькі пару дакладаў было прысвечаных прысутнасці іншых народаў на гэтай тэрыторыі.

Узровень выступленняў быў розны. Інаўгурацыйны даклад прафесара Тадэвуша Савіцкага з Варшавы на тэму ўсходняй мяжы Польшчы ў палітыцы СССР, Англіі і Амерыкі не ўнёс нічога новага. Прадстаўлены былі толькі тыя факты, якія, дарэчы, змешчаны ў школьных падручніках. З паўгадзіннага даклада вынікала, што для заходніх саюзнікаў было ўсё адно, дзе мела быць вызначана польска-савецкая мяжа, і што на практыцы пагаджаліся яны з усімі прапанаванымі Сталіна ў гэтай справе.

Лонгін Тамашэўскі з Варшавы, які гаварыў пра польскае падполле ў Вільні пасля 17 верасня 1939 г., пералічыў усе сяброўскія ды скаўцкія групы, называючы іх членаў змагарамі за свабоду, хаця часам уся іх дзейнасць зводзілася толькі да стварэння такой ці іншай нефармальнай арганізацыі, пра якую пасля ніхто больш і не чуў.

Сапраўды навуковы даклад зачытала Рахела Марголіс з Вільні. Прысвечаны ён быў культурнай спадчыне віленскіх яўрэяў. Неверагоднае культурнае багацце гэтай найбольшай нацыянальнай групы ў горадзе было знішчанае разам з народам, які яго стварыў. Са 111 сінагог у Вільні засталася толькі адна. Пані Марголіс хаця прадстаўляла народ, які так страшэнна пацярпеў у час вайны, гаварыла без эмоцыі, гаварыла пра факты, адкідаючы публіцыстычна-прапагандысцкі тон, які дамінаваў падчас канферэнцыі.

Марыя Варадынска гэтую ж праблему прадставіла ў адносінах да польскай культуры. Мэта ўсіх акупантаў Віленшчыны: савецкіх, нямецкіх, — сказала Варадынска, — была аднолькава — пазбавіць народ культуры, абмежаваць яго патрэбы ў гэтай галіне да ўзроўню фальклору.

Сентыментальна-патрыятычны тон большасці выступленняў першага дня нарадаў не надта дазваляў, каб канферэнцыю назваць навуковай. Але тое, што дзеялася на другі дзень, можна параўнаць толькі да нейкага палітычнага сходу. У адных хвалю захаплення, у другіх — абурэння выклікала выступленне прафесара Рышарда Шаблоўскага з Варшавы на тэму польска-літоўскага трактата ад 26 красавіка 1994 г. „Расеі мы не мусім любіць, — сказаў дакладчык, — але мусім з ёю лічыцца. Беларусь не з'яўляецца для нас ніякім партнёрам, яна на каленях лезе ў абдымкі Расеі. 10 разоў меншая за Польшчу Літва павінна з намі шукаць пагадненняў, а не мы з ёю, — гаварыў дакладчык. — Палітыка Скубішэўскага — паводле Шаблоўскага — гэта палітыка здрады ў адносінах да віленскіх палякаў і раз'юшыла яна толькі літоўцаў і не паўстрымала іх антыпольскія дзеянні. Злачынства літоўцаў падчас II сусветнай вайны ў адносінах да яразў і палякаў, брутальная ліквідацыя польскіх самаўрадаў на пачатку 90-х гадоў, — прадаўжаў прафесар, — дае прагноз наконт будучыні польскай меншасці ў Літве. Гэты „малы брацішак" толькі дэмаралізуецца такой палітыкай, якую ў адносінах да яго праводзіць Польшча". Прафесар доўгі пералік жаляў закончыў высновамі, што трактат ад 26 красавіка 1994 г. нічога не дае палякам, паколькі няма ніякай надзеі, што будзе ён рэалізаваны літоўскім бокам і што найлепш было б яго парваць.

Цяжка ўявіць, што адчувалі падчас гэтага выступлення прысутныя на канферэнцыі літоўцы. Ніводзін з іх не браў голасу, але трэба спадзявацца, што водгукі з Вільні неўзабаве будуць чутны. Падчас дыскусіі толькі Станіслаў Фрыбэс з Варшавы і Анджэй Рамкоўскі з Кракава пратэставалі супраць выкарыстоўвання навуковай канферэнцыі дзеля палітычных мэтаў. У дыскусію ўступілі ў большасці ветэраны Арміі Краёвай — сябры крэсавяцкіх арганізацыяў. Дора Канцэльсон гаварыла пра сітуацыю польскіх дзяцей у цяперашняй Літве, якія пазбаўлены медыцынскай апекі, і заклікала ўрад да больш рашучай палітыкі ў адносінах да Вільні. Захопленая дакладам ветэранка Данута Цясельска зрабіла сённяшнім 30—40-годкам закід аб недахопе патрыятызму. Толькі людзі, якія хадзілі ў школы перад вайной, ведаюць, што такое патрыятызм і нацыянальны гонар. На жаль — паводле выступаючай — улада ў Польшчы цяпер у руках выхаванцаў пэнэраўскай сістэмы.

Станіслаў Мілер з Таварыства любіцеляў Гародні і Вільні і Ежы Урбанкевіч — рэдактар часопіса ветэранаў АК „В'яна" ў абвінавачанні літоўцаў пайшлі яшчэ далей. Паўтараліся акрэсленні „perfidna polityka, eksterminacja, barbarzyństwo". Пратэстуючых супраць такіх метадаў дыскусіі Фрыбэса і Рамкоўскага Урбановіч паставіў у адзін рад як аднадумцаў Міхніка, Урбана, Фікуса, Замброўскага.

Гэтая дыскусія не мела ўжо зусім нічога супольнага з імпрэзай, якая называлася „навуковай канферэнцыяй". Месца канфрантацыі выніках шматгадовых даследаванняў занялі ўспаміны крыўдаў і эмацыянальная іх артыкуляцыя. Хаця арганізатары напісалі ў праграме канферэнцыі, што яе мэта — паказаць шматкультурнасць Вільні і паўночна-ўсходніх „крэсаў", у сапраўднасці гаварылася толькі пра прысутнасць аднае культуры, часам нехта зрабіў перарыў, прадстаўляючы яўрэйскі след. Пра Вільню як культурную сталіцу беларусаў увогуле не ўспаміналася падчас 3-дзённых нарадаў. Выглядала так, што быццам бы на Віленшчыне такой нацыі ніколі і не было. Як відаць, па-рознаму можна глядзець на гісторыю, культуру і навуку ўвогуле.

**Яўген Мірановіч**

PS. А рэчаіснасць і аб'ектывізм навуковых даследаванняў часам бывае зусім малаістотнай справай, нават на навуковай канферэнцыі.

**Я.М.**

# Сяргей Новік-Пяюн і „Песні з-за кратаў"

Ужо даўно я збіралася напісаць у „Ніву" пра зборнік паэзіі Сяргея Новіка-Пеюна „Песні з-за кратаў". Аўтар прыслаў мне яго ў снежні 1993 года. Раптам прыйшла з Менска сумная вестка: Сяргей Новік-Пяюн не жыве. Памёр ён 26 жніўня 1994 г. на 88 годзе жыцця. Пачала я чарговы раз гартаць „Песні з-за кратаў". У кожным вершы — безмежная любоў да Беларусі. Бясспрэчна — гэта нацыянальная плынь у літаратуры. Таму, мабыць, у Беларусі так доўга і марудна яна выдавалася.

Думаю пра жыццё і паэзію Сяргея Новіка-Пеюна. Колькі ж у ім было любві да бацькаўшчыны, якой нішто не было ў стане яе зламаць. А жыццё ўвесь час кідала паэта ў ссылкі і турмы. Ягоны лёс — гэта лёс Беларусі, нікому непатрэбнай, закінутай і забытай. Здаецца, больш публікавалася ягоных твораў у Заходняй Беларусі пад Польшчай, чым пасля вайны ў Савецкай Беларусі.

Сумна мне было слухаць год таму пра турботы з выданнем „Песняў з-за кратаў" у незалежнай быццам бы Беларусі. Яшчэ 29 ліпеня 1993 г. Сяргей Новік-Пяюн паказваў мне каробкі са сваімі рукапісамі, расказваючы пра сваё пакутніцкае жыццё. Ляжаў ён ужо ў ложку, не хадзіў. Пачула я аповяд і пра Балаховіча, які ў беларускай рубашцы хадзіў па Нясвіжы і заахвочваў уступаць у беларускае войска, і пра іншых беларускіх дзеячаў. Жывое апавяданне прыблізіла тады мне многіх беларусаў і іх цяжкае жыццё толькі таму, што былі яны вернымі сынамі бацькаўшчыны.

У чэрвені 1928 года ў горадзе Сьвеце над Віслай да Сяргея прыехалі: тадышні беларускі пасол у польскі Сейм Альбін Стэповіч і Уладзіслаў Казлоўскі. „Адчыніце дзверы і кажуць: — Ці тут амбасада Беларусі? На таксі мы паехалі праз Віслу ў Хелмна да Наталлі Арсенневай і Францішка Кушаля. Ф. Кушаль быў там камандзірам кулямётнай роты. Яны на наш прыезд зрабілі банкет. Мы з Альбінам заначавалі. Н. Арсеннева падарыла нам сваю кнігу „Пад сінім небам". Назаўтра мы з Альбінам пайшлі ў парк і доўга гутарылі пра Беларусь. Пасля вярнуліся ў Сьвеце".

Сяргей Новік-Пяюн, якому ў жыцці не шанцавала, амаль 30 гадоў правёў у ссылках і турмах. Там ствараў свае вершы, часта без паперы, у памяці.

Славутыя „Зорачкі" паўсталі ў горадзе Сьвеце над Віслай у 1929 г. „Вось ішлі мы аднойчы вечарам па горадзе: я, сябра паляк і сяброўка ўкраінка. Пазіраючы на зорнае неба нашая сяброўка сказала мне: — Ну, вось маглі б Вы нешта пра гэтыя зорачкі заспяваць. І так паўсталі „Зорачкі".

У скромнай кватэры пры вуліцы Купрыянава 8 у Менску — шмат асабістых і сямейных памятак, кожная мае сваю пакутную гісторыю. Найбольшай каштоўнасцю лічыў Сяргей Новік-Пяюн вышытую ягонай сястрой Пагоню. Альбомы, кнігі, карціны — яны даўжэй жывуць, чым чалавек. Цяжка сёння думаць, што гэты хатні архіў застаўся без гаспадара — Сяргея Пеюна, Маладога Дзядка, Крыўца-Сяргея, Сярожы-Пастушка ў адной асобе.

Пацяклі слёзы з вачэй па закончыўшым жыццё паэту. Аднак вечнымі асталіся ягоныя радкі пра любоў да Беларусі:

*Калі ж апошні прыйдзе час*
*і сэрца біцца перастане,*
*З сабой вазьму ў магілу ўраз*
*Да Беларусі я каханне.*

*А тая іскра, што калісь*
*Я між свайго народу кінуў,*
*Ўзляціць маланкаю увысь,*
*Асвеціць родную краіну.*

*„О, Беларусь, мой родны край!", 1939 г. (польскі астрог).*

**Лена Глагоўская**

# Ці лёгка гаварыць па-беларуску?

Напэўна не, калі маем на ўвазе беларускую літаратурную мову. Беларускія радыёперадачы з Беластока сведчаць аб тым, што большасць нашых землякоў слабенька гаворыць па-беларуску. Размоўцы найчасцей карыстаюцца мясцовай гаворкай з дамешкай польскіх і рускіх слоў, хоць навучанне беларускай мовы на Беласточчыне вядзецца гадоў сорак. Здараюцца таксама памылкі вядучым перадачы журналістам.

Часта ў эфіры гучыць рускае „номер", калі па-беларуску гаворыцца „нумар". Не адзін раз ідзе гутарка пра навучанне беларускай мовы і тады чуецца слова „сведамасць", якога няма ў слоўніку. Слоўнік падае слова „свядомасць" з націскам на „о", як у польскім такім жа слове. Пад уплывам рускага слова „уровень" няправільна ўжываецца з націскам на першым складзе „узравень". Нормай з'яўляецца „узровень" з націскам на другім складзе.

У адной з перадач, калі ішла гаворка пра конкурс беларускай песні было сказана, што выканаўца атрымаў „выключэнне" замест „вылучэнне". „Выключэнне" мае цалкам адваротнае значэнне да пахвалы ці ўзнагароды.

Памылкай лічу сталае ўжыванне на старонках „Нівы" старажытных назваў беларускіх гарадоў. Назвы: „Мінск", „Гродна", „Брэст" афіцыйна ў Беларусі не змяніліся. Яны вядомы ў свеце. Назвы: „Гародня" і „Бярэсце" гучаць архаічна і, мабыць, сучаснасць іх не прыме, бо кожная мова імкнецца да скарачэння, а не падаўжання форм.

У нядзельнай верасьнёўскай перадачы „Перад выхадам у царкву" вядучая перадачу думала па-польску і замест „zgłaszać się" утварыла невядомае беларускай мове слова „згалошвацца". Трэба было сказаць: „з'яўляцца".

Слухаючы і чытаючы можна заўважыць розныя моўныя агрэхі. Беларуская і руская мовы маюць так многа падабенстваў, што не філолагу вельмі складана знайсці адметнасць лексічных форм. Цяжка таксама выкінуць польскую лексіку з нашай галавы.

Адным словам — трэба працаваць з беларуска-руска-польскім слоўнікам.

**Мікалай Варанецкі**

# ЯКІ ЛІЦЭЙ?

*Працяг са стар. 4*

паступіў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Паколькі прыклады дваццаціпяцігадовай даўнасці гэта ніякія прыклады, пазнаю я ў згаданы ліцэй. Сябры літоўцы нешта не помняць, каб такое ў іх калі-небудзь здаралася. Калі і было, дык напэўна не ад няведання польскай мовы. Сёлета ў вышэйшыя школы паступіла 55% выпускнікоў літоўскага ліцэя. Гэта яшчэ няпоўныя дадзеныя і паказчыкі могуць яшчэ павысіцца.

Як відаць, большасць абітурыентаў літоўскага ліцэя, у якім па-польску выкладаецца толькі польская мова, стае студэнтамі. Трэба таксама звярнуць увагу і на тое, што каля 80% вучняў пачатковай школы з літоўскай мовай навучання вучыцца далей у ліцэі. Толькі кожныя два гады набіраецца першы клас у тутэйшую сельскагаспадарчую школу.

Такім чынам літоўцы забяспечваюць высокі сярэдні ўзровень адукацыі сваёй грамадскасці і маюць прытым надпрадукцыю інтэлігенцыі з вышэйшай асветай.

Дык хопіць. А можа не трэба ўжо распаўсюджваць міфы аб тым, што інакш як гэта было ў Бельску, быць і не магло.

**Алег Латышонак**

 

# Святыя Вера, Надзея, Любоў і маці іх Сафія

Святая Сафія жыла ў Рыме пры імператары Адрыяне (117—138). Была яна набожнай удавою-хрысціянкай. У яе былі тры дачкі, якіх назвалі іменамі трох хрысціянскіх дабрадзейнасцяў. Неўзабаве пасля іх нараджэння Сафія аўдавела, але цяжар самотнага выхавання дзяцей нічога не змяніў у яе набожным жыцці. Было яно напоўненае малітвай, постам і дапамогай бліжнім. Сафія (у стараграчаскай мове гэта слова абазначае *прамудрасць*) перадала сваім дочкам тое, чым сама жыла. Аднойчы ўпраўляючы правінцыяй Антыёх хацеў пабачыць іх, паколькі весткі аб жанчынах разышліся па ўсім Рыме. Калі выявілася, што яны — хрысціянкі і не тояць сваёй веры, далажыў ён аб гэтым імператару Адрыяну. Той загадаў прывесці іх да сябе. Калі імператарскія паслугачы прыйшлі ў дом Сафіі, тая здагадалася, што іх неўзабаве чакае і ў малітве стала прасіць Бога, каб Той паслаў ім сілу перанесці чакаючыя іх непазбежныя пакуты.

Перад самім імператарам яны адкрыта і без боязі заявілі аб сваёй веры, а той, бачачы мудрасць Сафіі і не жадаючы весці з ёю дыскусію, загадаў адасламь іх да нейкай жанчыны, а пасля трох дзён прывесці іх назад, на распраў. Усе гэтыя дні маці ўмацоўвала сваe дочкі перад пакутамі ў веры і пераконвала, што тое, што чакае іх тут на зямлі за іх веру ў Хрыста, гэта нішто ў параўнанні з той узнагародай, якую падрыхтаваў ім Гасподзь Ісус Хрыстос у Царстве Нябесным.




Вера, Надзея і Любоў змалку выхоўваліся ў духу любві і самаахвярнасці Госпаду, рыхтаваліся да пакутніцкай смерці. Агароджвалі яны сябе верай, падмацоўваліся надзеяй, распальваючы полымя любві да Госпада. Абяцалі яны сваёй маці, што не адракуцца Хрыста і тое ўсё, чаго яна іх вучыла, здзейсняць на практыцы. Так яно і было.

Імператар паабяцаў ім, што калі яны пакланяцца Артэмідзе і іншым язычніцкім бажкам, назаве тады іх сваімі дочкамі і стане для іх бацькам, але калі яны супраціўляцца яго волі, тады падвергне іх неверагодным пакутам. Святыя дзевы, якім было 12, 10 і 9 гадоў, сказалі, што іх бацька — Бог на небе, а яны — Яго дзеці і не баяцца пакутаў у імя Хрыста. Адрыян загадаў тады аддаць іх на пакуты, а маці — прыглядацца кананню дачок. Чаргова, пачынаючы з найстарэйшай, усе яны падвяргаліся жорсткім катаванням. Прыпякалі іх на распаленай жалезнай рашотцы, аблівалі гарачай смалою і алеем, укідалі ў печку, прыбівалі цвікамі да кола, збівалі палкамі, калечылі цела вострымі прыладамі. Гасподзь умацоўваў іх духовыя і цялесныя сілы, дапамагаў ім пераносіць гэтыя страшэнныя пакуты.

Святыя мучаніцы, пераносячы катаванні, услаўлялі Госпада Ісуса Хрыста і засталіся непахіснымі ў веры. Маці іх, Святая Сафія, прабываючы на месцы пакутаў, моцна малілася Богу і прасіла Яго ўмацаваць іх у веры ды пераконвала дачок, каб да канца не сышлі яны з гэтага шляху, які вядзе да Хрыста.

У такой жа чарговасці, у якой падвяргалі іх катаванням, адсеклі мячом ім галовы. Маці, прыглядаючыся мукам сваіх дачок, таксама была падвергнута страшэнным пакутам. Яна імкнулася захаваць вонкавы спакой, каб яшчэ больш мацней падтрымаць іх веру, але перажывала нявыказаныя ўнутраныя мукі. Імператар Адрыян, каб павялічыць боль маці, дараваў ёй жыццё і нават дазволіў ёй узяць з сабою целы дачок і пахаваць іх. Тры дні і ночы Святая Сафія прабывала ля магіл сваіх дачок і там аддала сваю душу Госпаду. Вернікі пахавалі яе побач дачок. Такім чынам Святая Сафія таксама была ўзнагароджана пакутніцкай каронай і ўдзелам у Царстве Нябесным, бо хаця не целам, але сваім сэрцам і яна пакутавала за Хрыста.

Памяць Святых Мучаніц Веры, Надзеі і Любові і маці іх Сафіі ўшаноўваем 30 верасня (17. 09 па старому стылю).

С. Н.

# Паломніцтва з Гродна ў Жыровічы

У днях 21—28 жніўня 1994 г. па бласлаўленню мітрапаліта Менскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта адбылося II пешае паломніцтва з Гродна ў Жыровічы на свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Шэсце арганізавала Праваслаўнае брацтва ў імя Архістраціга Божага Міхаіла ў Менску. Так як і ў мінулым годзе, у паломніцтве прыняло ўдзел каля дваццаці паломнікаў з Беластока, Бельска і Сямяціч. Арганізаваў іх Уладзімір Клюкоўскі. За ўсю пілігрымку адказным быў Ігар Котаў. Наймалодшаму паломніку было ўсяго 4 гады, а найстарэйшым — аказалася 82-гадовая спадарыня Надзея з Бельска. Здаўна прымае яна ўдзел у паломніцтве на Святую Гару Грабарку, а апошнім часам удзельнічае ў новых паломніцтвах у Супрасль і Жыровічы. Не перашкаджае ёй немалады ўжо ўзрост. Відаць, дае Гасподзь сілу любячым яго! У Гродна беластоцкая група даехала цягнікам. Паломніцтва пачалося ў жаночым манастыры Раджаства Прасвятой Багародзіцы ў Гродне, адкуль яго ўдзельнікі прайшлі па вуліцах горада ў кафедральны сабор, а потым накіраваліся ў Скідаль. Далей маршрут вёў праз Дубна, Масты, Пяскі, Пацэвічы, Самойлавічы, Зэльву, Сынковічы і Слонім у Жыровічы. З Гродна выйшлі каля 40 чалавек, а на мэце група налічвала каля 70 паломнікаў. Усю дарогу паломнікі адчувалі сябе як адна вялікая сям'я, якая ў малітве і посце несла сваю ахвяру. Вернікі сустракалі іх на трасе хлебам-соллю, з харугвамі, таксама і развітваліся з імі. Па дарозе пякло сонца ды праходзілі ліўні, але нішто не змагло перашкодзіць у нясенні сведчання Праваслаўнай Веры. Сведчанне гэтае важнае і таму, што камуністычнае панаванне пакінула многія раны і аблогі на душы беларускага народа, які ад пачатку сваёй гісторыі быў звязаны з Праваслаўем.

Такое паломніцтва вельмі патрэбнае, бо паказвае яно людзям, што апрача клопатаў і турбот пра зямное, прамінаючае, можна, а нават трэба думаць таксама і пра сваю душу.

Паломнікі пачыналі і канчалі дзень малітвай, а харчаваліся яны галоўным чынам хлебам, памідорамі, агуркамі, бульбай, яблыкамі і джэмам. Прыхаджане спатыкалі іх з адкрытымі сэрцамі і са слязамі ўзрушэння.

У Жыровічах паломнікаў прывіталі мітрапаліт Філарэт і духавенства. Пастыр дзякаваў ім за тое, што сваёй місіяй рассяваюць яны іскрынкі веры ў сэрцах тых, якія духова яшчэ не загарэліся, а ўмацоўваюць тых, якія здаўна ўжо разумеюць, што без Бога ні да парога.

У свята Успення Прасвятой Багародзіцы паломнікі ўдзельнічалі ва Усяночным дбанні, акафісце Прасвятой Багародзіцы, Літургіі і чыне Праабражэння Божай Маці. Былі яны таксама і ля крыніцы, якая выцякае з месца, дзе ў 1470 годзе з'явілася цудадзейная Ікона Жыровіцкай Божай Маці і акунуліся ў суседняй купелі, праз якую цячэ вада з крыніцы.

У панядзелак, 29 жніўня, цераз Слонім у Гродна, а далей цягніком нашы паломнікі вярнуліся ў Беласток.

Год таму ўпершыню, сёлета ўжо другі раз, а праз год, спадзяюся, у трэці раз зноў выйдзе паломніцтва з Гродна, каб сваім шэсцем пакласці цаглінку ў духовае адраджэнне нашых сабратаў па веры, якія жывуць па другі бок граніцы.

С.Н.



*Нішто не змагло перашкодзіць у нясенні сведчання Праваслаўнай Веры.*

# ІКОНЫ

**Частка IV**

Жыхарка вёскі Бандары Наталля Бура (1887—1973) у самым пытанні пра іконы схільная была бачыць свайго роду ерась. Адказваючы ў 1965 годзе на мае пытанні са злосцю ў голасе гаварыла: „Іконы, іконы! Напэўна вам, маладым, то ўжэ яны ні патрэбны. Нібось, ты там у гэтой сваёй Лодзі то іконы праваслаўнае ні маеш! Бо баішся „парціі" і палякаў, бо яны адразу табе сказалі б, што ты кацап. А кажда ікона то для нас святая, яна мае божае благаславенства. Ты напэўна перад іконаю лоба ні пераажагнаеш і малітвы ніколі ні скажэш. Вядомо, як і нашы мужыкі ў цэркву ходзят! Толькі тады, калі его хрысцят, жэнят і хаваюць. Два разы яго вязут, а раз то сам едзе. От і ўся ваша набожнасць. А тым часам нашы мама то ікону ў 1915 року як ехалі ў бежанства, то завязалі аж у Сібір і прывязлі назад. Усё страцілі па дарозі, нават не ўсе дзеці жывыя вярнуліся, але ікону прывезлі. І гэта ікона памагала жыць усёй нашай сям'і. Ну, як мы спраўляліся, як вы цяпер гаворыце, выхоўвалі дзеці? А вельмі просто, пры помачы іконы і бізуна. Бывало, ужэ ад маленькосці тлумачыш дзіцяці: будзь паслушнэ, працуй, ні лжы, вучыся, бо Маці Божа з іконы ўсё бачыт. Калі будзеш добрэ рабіці, то небо наградзіт, а калі кепско, то небо пакарае. І што ты думаеш — памагло! Дзеці пабаіваліся іконы і маліліся, і пераапрашалі яе, і дзякавалі ёй за здароўе. За ежу, за адзежу, за абужу. Ну, а калі ікона ні памагала, бо і такое бывало, то тады бацько або маці бралі ў рукі бізун, і тады срака была ў рабоці. От, як было каліcь! І таму і бацькоў шанавалі, і паслушэнства было, і парадак, і працавітасць была. А цяпер што робіцца, га? Бо вельмі ўжэ ўсе зрабіліся разумны, вучоныя, школы пазаканчвалі, а ў гэтых школах то хіба ўсё там пра антыхрыста, а не пра Бога вучат? Ты ж таксамо вельмі разумны стаў. Скажы, калі ты быў у цэркві, калі ты астатні раз малітву да іконы згаварыў? Але, нібось, як прыцісне біда, то пабежыш у цэркву і пашукаеш іконы!

Нашы пакойніца мама то заўшэ расказвалі, што калі ў бежанстве было так цяжко, што ўжэ ні можна было выдзержаці, то тады маліліся і заўшэ памагало. Зрэштаю і сама тое бежанства вельмі добрэ помню. Я была ўжэ дужманаю дзеўкаю, можэ мне было лєт семнаццаць або і больш. То, бывало, уклекнем кругом іконы, памолімся і зараз чалавекаві сілы прыбудзе і надзея вернецца. А калі ў дваццаць другім року мы ўжэ з тае Сібіры прыехалі ў Свіслач і ўжэ было вядомо, што дахаты дабарэмсе, то нас апанавала такая радасць, што мама дасталі з тлумкоў ікону, пацалавалі яе і далі нам усім яе пацалаваці. І так нам зрабілаcё ў сэрцы цепло і добрэ, і радасно, бо ўжэ было вядомо, што да хаты вельмі блізко. Да гэтае Свіслачы то мы перад бежанствам на рынок пачці што кажды тыдзень ездзілі або хадзілі пяшком.

А калі мы ўжэ прыехалі дахаты і аказалаcё, што хата не згарэла, то маці нікого ў хату не пусцілі, толькі з іконаю ў руках тры разы абышлі і хату, і клуню, і ўнеслі ікону ў хату і павесілі на сцяне. І толькі пасля гэтаго мы ўсе ў хату ўвайшлі. От бачыш, як мы паступалі з іконаю. А вы сягодне як паступаеце? Вам здаецца, што вы ўсе знаеце лепш, а вы гаўно знаеце, от што я табе скажу".

**Алесь Барскі**



 

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

## (4)
## Храм у Гарадку

Пасярэдзіне колішняга рынку ў Гарадку ёсць прыгожая царква на плане грэчаскага крыжа, з купалам з арыгінальным ліхтаром і чатырма вежкамі на навугольніках. Ад захаду высіцца вежа на гарызантальнай праекцыі прамавугольніка і цераз яе ўваходзяць у царкву.

Пабудову новага мураванага храма Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі пачалі ў 1946 годзе. Краевугольны камень пад царкву ўмуравалі 21 верасня 1946 года, ва ўрачысты дзень парафіяльнага свята. Пабудаваць манументальную — як на вясковую парафію — царкву ўзяўся прыхадскі настаяцель Уладзімір Дарашкевіч (цяперашні мітрапаліт Варшавы і ўсяе Польшчы Васілій). На самым пачатку быў вялікі энтузіязм пераважаючай колькасці парафіян, якія прыступілі да пабудовы пышнага стыльнага храма. Усё ж пабудова царквы і званіцы працягнулася да сямідзесятых гадоў. Асвячэнне яе адбылося на другі дзень Тройцы (у Святадухаў дзень) у 1970 годзе, з удзелам мітрапаліта Васілія ў суправаджэнні двух епіскапаў і шматлікіх прыбылых на ўрачыстасць духоўных.

У сярэдзіне — імпазантныя карціны намаляваныя прафесарам Адамам Сталёны-Дабжанскім, прафесарам Ежы Навасельскім і Ежы Латоўскім. У царкве арыгінальны трохярусны іканастас зроблены Зямбіцкім з Харошчы. Ёсць тут старыя іконы XVII стагоддзя, старадаўнія кнігі, літургічныя рэчы і іншае абсталяванне.

У „царскіх варотах" знаходзіцца шэсць тонд з адлюстраваннем чатырох евангелістаў ды Прасвятой Дзевы Марыі і архангела Гаўрыіла. У дыяканскіх: з левага боку — ікона з выявай святога Міхаіла, з правага — святога Сцяпана. У купале шматлікія фрэскі: Божая Маці сярод анёлаў, Хрыстос Пантакратар і іншыя, а на сценах нефаў і на скляпеннях — адлюстраванні святых, сімвалы, жывапісныя дэкарацыі. На сценах галоўнага нефа ды па абодвух яго баках намаляваных 30 крыжоў. Прадстаўляюць яны ў які спосаб ад найдаўнейшых часоў людзі ўяўлялі сабе гэты рэлігійны сімвал. Цэласць дапаўняюць багатыя маляўнічыя вітражы праф. Дабжанскага — між іншым у апсідзе царквы і ў сярэднім нефе, даўнія літургічныя прадметы.

На ўвагу заслугоўваюць таксама капліца на праваслаўных могілках з іканастасам ды мясцовы каталіцкі касцёл. Апошні быў пабудаваны ў 1936 годзе, на гарызантальнай праекцыі прамавугольніка з вежай. У сярэдзіне ў галоўным алтары ў стылі барока знаходзіцца абраз з выявай Багамаці з Дзіцяткам на паўмесяцы. Бакавыя алтары таксама барочныя.

У 1962 годзе праваслаўная парафія ў Гарадку налічвала 1915 чалавек, пражываючых у 580 дамах. Найбольш у Меляшках — 566, у Гарадку — 532, у Валілах — 220, у Дзернякове — 174 і ў Зарэчанах — 71. Лік парафіян змяншаецца.

Варта прыгадаць настаяцеляў Гарадоцкага прыхода. Першым быў духоўны з роду Казловічаў (паводле запісу ў Супрасльскім памянніку пад 1631 годам). Затым настаяцелямі былі: Ян Дубоўскі (у палове XVIII стагоддзя), Міхал Клячкоўскі (з 1788 года), Міхал Закшэўскі (да 1804 года), Матэуш Канцэвіч (з 1804 года), Юльян Скальскі (1852—1881), Юзэф Грыневіч (1881—1885), Піліп Занкевіч (з 1885 года) — у тым годзе парафія налічвала 3607 прыхаджан, Анатоль Вінаградаў (1909—1936), Яўген Віхроў (1939—1943), Дзмітры Дарашкевіч (з 1943 года), Уладзімір Гарустовіч (1944—1946), Уладзімір Дарашкевіч (1946-1959) — цяперашні мітрапаліт Васілій, заступіў яго потым дваюрадны брат — Уладзімір Дарашкевіч (1960—1979). Зараз прыход узначальвае Рыгор Шырынскі (з 1979 года) ды яго памочнік Юрый Асіповіч.

Апрача царквы ў Гарадку ў гэтай жа гміне ёсць парафіяльная царква святой Анны ў Каралёвым Мосце (пабудаваная ў 1904—1928 гадах) і храм святога Іаана Багаслова ў Мастаўлянах з 1862 года, разбудаваны ў 1908—1909 гадах.

## Гарадоцкае наваколле даўным-даўно

У XVI стагоддзі каланізацыя ішла ад Гродна, тады званага Горадняй. Тадышняя каланізацыя пушчаў сягнула далёка за Крынкі і Гарадок, дайшла да багнаў Бобры (Бебжы), Бярозавай, Чорнай і Нарвы, устанаўляючы такім чынам польска-беларускі этнічны рубеж.

Энергічная каралева Бона правяла на гэтых землях вельмі важную сельскагаспадарчую рэформу, так званую валочную памеру, закончаную каля 1557 года. У выніку была ўведзена трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі (камасацыя земляў у трох кавалках, трэці кавалак — на „папар", аблог), а раскінутая па ваколіцах забудова была згуртавана ў форму вёсак з адной вуліцай.

Чыншавымі вёскамі былі тады — Нарэйкі, Скрабляні. Ужо існавалі тады таксама Лужаны, Хамутова, цяпер Коматаўцы, Баброўнікі ды Габяты, населеныя літоўскімі баярамі Габятамі.

Вельмі рана ў параўнанні да часу заснавання навакольных вёсак у Гарадоцкай акрузе ўзнікла вёска Вейкі — тады як і Ялоўка, што ў Міхалоўскай гміне, у 1545 годзе.

У 1558 годзе было пасяленне Вараб'ёў (сёння Вераб'і) ды пасяленне баяра Станіслава Страша (сённяшняе Страшава). Былі таксама Меляшкі і Бялявічы ды Супрасль (сёння Зарэчаны). Тут першымі пасяленцамі былі людзі з ваўпянскай і мсцібогаўскай воласцей.

У 1567 годзе вядомы ўжо вёскі Бялявічы, Меляшкі і Зарэчаны, размешчаны на правым беразе ракі Супрасль. У тым жа годзе ад караля Зыгмунта Аўгуста атрымаў іх Рыгор Хадкевіч, сын Аляксандра.

Каля старога двара Каладзежна ў XVI стагоддзі ўзніклі Свіслачаны, Зубры, Грыбаўцы і Зубкі. У тым жа стагоддзі існавалі ўжо пасяленні пад назвамі Коматаўцы, Лужаны і Скрабляні. У Коматаўцах і ў суседніх Баброўніках пражывалі баброўнікі. Гэтыя пасёлкі атрымаў ва ўладанне ў 1560—1569 гадах Астафей Валовіч ад караля Зыгмунта Аўгуста. Тут знайшлі сабе месца жыхарства людзі з ваколіц Горадні. У Скрабляках, Нарэйках і ў Габятах, апрача людзей прыбыўшых тут з-пад Горадні, пражывалі таксама літоўцы.

Каралёвы Мост (папярэдняя назва Янаполь) быў заснаваны каля 1674 года. У XVII стагоддзі маёнтак у Янаполі быў уласнасцю Багуслава Радзівіла. „За заслугі" атрымаў яго верны слуга Саковіч. Ва ўладанні гэтай сям'і маёнтак быў да 1913 года.

У 1679 годзе кароль Ян III Сабескі даў вёску Лужаны ва ўладанне татарскаму палкоўніку Самуілу Мурзе Кшачоўскаму і яго салдатам. Татары пасяліліся таксама ў Габятах і ў Ярылаўцы.

Валілы, Залукі, Навасёлкі, Случанка і Дзернякова — з канца XVII стагоддзя. Сафіпаль узнік каля 1795 года. Пераходы — у XIX стагоддзі. Назва мясцовасці адносіцца да месца, дзе пераходзілі дзікія звяры паміж ляснымі камплексамі — пушчамі Ялоўскай і Сабалеўскай. Ёсць і іншае меркаванне, што можа назва звязана са Студзеньскім паўстаннем 1863 года. Рускія войскі дзеля таго, каб весці кантроль у пушчы, рабілі прасекі і размяшчалі стражнікаў. Называлі гэтыя прасекі таксама пераходамі.

Станцыя Валілы заснавана ў XIX стагоддзі, калі пабудавалі чыгуначную лінію з Беластока ў Баранавічы.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# Чыжоўская даўніна

Першапачаткова пасяленне называлася Чыжовічы і было вядомае з пачатку XVI стагоддзя. Заснавалі яго бортнікі (пчаляры), асочнікі і стральцы Бельскай пушчы. У 1517—1573 гадах тут пабудавалі царкву.

У 1775 годзе вёска Чыжы налічвала 200 дамоў і ў ёй пражывалі 764 чалавекі, а ў 1808 годзе — было 204 дамы і 868 асоб.

У 1903 годзе ў сяле налічвалася 115 дамоў і 955 чалавек.

У 1883—1908 гадах у Чыжоўскім прыходзе дзейнічалі царкоўна-прыхадскія школы. У Чыжах школу адкрылі ў 1883 годзе. Найперш было сельскае вучылішча, якое ў 1895 годзе замянілі на народнае. Школы граматы працавалі ў Збучы, Падрэчанах, Курашаве, Лядах і ў Койлах. У 1905 годзе ў трох царкроўна-парафіяльных школах вучылася 127 дзяцей і ў народным вучылішчы — 95.

У жніўні 1915 года, у час першай сусветнай вайны, большасць праваслаўнага насельніцтва эвакуіравалася ў глыб Расіі. Вяртанне адбывалася ў 1918—1921 гадах.

У 1924 годзе ў вёсцы Чыжы было 130 дамоў і пражывала ў ёй звыш тысячы чалавек. У трыццатыя гады школу ў Чыжах наведвала 160 дзетак. У 1950 годзе Чыжы налічвалі 190 дамоў і 767 жыхароў.

Калі ў 1984 годзе згарэла тамашняя царква, яе адбудавалі.

**(Я.Ц.)**

# Ёсць яшчэ праўдзівыя цыганы

**Гутарку са старшынёй Рады ромаў у Ольштыне ЗБІГНЕВАМ БІЛІЦКІМ вядзе Андрэй Гаўрылюк**

— *Усё часцей замест слова „цыган" прымяняецца слова „ром". Чаму?*

— Стараемся пра гэта ўжо многа гадоў. Мы ёсць ромы; мы так сябе называем. „Цыган" — гэта адмоўны стэрэатып.

— *Як выглядае сітуацыя ромаў у Ольштыне?*

— Нядобра. Вельмі часта ромы сустракаюцца з праявамі абыякавасці з боку гарадскіх ураднікаў, што вельмі балюча ўспрымаем. Цяжка таксама нешта арганізаваць. Калісь быў у нас фальклорны ансамбль. Ездзілі мы па гарадах, давалі канцэрты. Нашы людзі зарабілялі на жыццё; ні залатоўкі не атрымалі мы ад дзяржавы. Цяпер няма ў Ольштыне ніводнага такога калектыву.

— *Чаму?*

— Арэнда залы каштуе многа, таксама як і рэклама. Людзі перасталі прыходзіць на канцэрты. У канцы 80-х гадоў звярнуўся я да ўлад горада, каб далі пляц пад будову цэнтра культуры ромаў. Гарадскія ўлады адмовілі і па сённяшні дзень пляц пустуе.

— *Ці гэта віна палякаў? Можа ромы не ўмеюць прыстасавацца да жыцця ў грамадстве?*

— Умеюць. Нельга вінаваціць і ўсіх палякаў. Ведаю многа прыхільных нам людзей, якія стараюцца дапамагаць.

— *Калі чуецца слова „цыган", людзі думаюць пра жанчын, якія прыстаюць да прахожых, каб паваражыць. Ці гэты стэрэатып не шкодзіць узаемным адносінам?*

— Не ў тым справа. Стагоддзі жывем разам ды быццам бы асобна.

— *Як мне вядома, ромы ўмеюць жыць згодна ў сваім асяроддзі.*

— Умеюць. Нашае ж жыццё калектыўнае: разам святкуем шлюбы, хрысціны, юбілеі, пахаванні.

— *Чаму ліквідуецца аддзел Згуртавання ромаў у Ольштыне?*

— Няма грошай на дзейнасць.

— *І вы прыдумалі на гэта спосаб: фундацыю?*

— Так, зарэгістравалі Міжнародную фундацыю ромаў. З Галоўнай мытнай управы атрымалі дазвол на бяспошлінны перавоз у Польшчу старых самаходаў ад нашых землякоў з Германіі і Галандыі. Ідэя была такая, што яны там купляюць, а мы тут прадаем і атрыманыя грошы раздаем для найбяднейшых ромаў. Першы самаход мы прадалі і некалькі дзесяткаў мільёнаў злотых раздалі патрабуючым. Цяпер на мяжы стаяць два затрыманыя самаходы: вядзем гаспадарчую дзейнасць, а гэта не дае нам права на звальненне ад пошліны.

— *Даўней жыццё ромаў праходзіла ў вандроўках у табары. Ці цяпер ёсць яшчэ праўдзівыя ромы?*

— Ёсць. У нас кожнае дзіця ўмее танцаваць і спяваць старыя песні. Кожны хоча ведаць як найбольш пра мінулае, традыцыю.

— *Праз паўстагоддзя будуць яшчэ ромы ці ўжо толькі палякі ромскага паходжання?*

— За паўстагоддзя і за стагоддзе ромы будуць. Пратрывалі мы такі цяжкі час, што калі прыйдзе лепшы, дык таксама пратрываем.

— *Дзякую за размову.*

# Падымем зрок

Гляджу на архіўны здымак са з'езда карэспандэнтаў „Нівы" ў 1977 годзе, што побач публікацыі Г. Валкавыцкага „Каравайнае" („Ніва", н-р 2000). Радасна робіцца на душы, бачачы толькі знаёмых воблікаў сяброў-карэспандэнтаў. Усіх іх пазнаю, але неяк не магу адшукаць прозвішчаў у памяці. Побач мяне стаіць Уладзімір Сідарук, а ззаду сп. Г. Валкавыцкі... І гэта ўсё. Рэшты ж, прабачце, не магу ўспомніць. Чаму, хто-небудзь запытае, можа склероз ужо ахапіў, ці іншая якая хвароба. Усё гэта магчыма, але прычына тут іншая. Усе карэспандэнты з фатаграфіі даўно парвалі сваю лучнасць з „Нівай", а памяць у чалавека кароткая. І тут ад радасці пераходжу я ў смутак і роздум: як жа ж вам жывецца, дарагія сябры са здымка? Напэўна нехта ўжо адышоў у вечнасць, такі парадак свету. Але большасць з вас напэўна ў жывых, дык прачніцеся, сябры, і дакажыце, што не барсукі з вас, а людзі — хай словы Г. Валкавыцкага „...не спадзяюся на дзейсны водгук. Няма аб чым пісаць, прытупіўся зрок" не будуць прарочымі, а толькі перасцярогай для ўсіх нас. Давайце падымем свае вочы і дакажам, што беларушчына не пагасла!

**Мікалай Панфілюк**

## ДЗЕ МАЯ „НІВА"?

Пошта ў Старым Корніне працуе спраўна. Трэба пахваліць таксама лістаношу — маладога хлопца, які ўсё даручыць у пару.

Калі я не атрымала „Ніву" ад 17 ліпеня г.г. у чацвер, думала — будзе яна ў пятніцу. Але яе не было. Не было яе і ў панядзелак, і ў аўторак, і ў сераду! У чацвер я атрымала наш тыднёвік ад 24 ліпеня, але пяпярэдняга надалей не было. Думала, што, можа, даручаць цераз пошту, але гэтак не здарылася. Проста, той нумар недзе прапаў.

Калі ў „Газеце Вспулчэснай" праводзіўся конкурс „Бінго" і 28 ліпеня не даручылі газетаў у час старакорнінскай пошце, прывезлі яе 2 жніўня. Тады чаму ж і дзе „пасеяўся" мой экземпляр „Нівы"?

**Аўрора**

# РЭПЛІКІ

* * *

— То гаваркая, то нямая,
То прыніжае, то ўзнімае,
То б'е пад дых, што сілы мае,
То гладзіць так — аж дух займае!

* * *

— Жыць з цешчай прымакам? —
Не, блін, дулю з макам:
Даўно ўжо ссівеў бы,
Калі б не злысеў!

Прыходзіцца есці
За стол адзін сесці
Хоць з ёй на гектары
Адным бы не сеў!

**Станіслаў Валодзька**

## ДРЫМОТА-СОН

Быццам вольнымі мы сталі,
А на справе ж задрамалі
І праз сон клянём кагосьці,
На сваёй зямлі — як госці:
Размаўляем па-расейску,
Мінск назваць баімся Менскам,
Нам бы даў пабольш хто мяса,
Нам бы масла і каўбасаў!

Што нам нейкі там Гусоўскі, —
Наш ён, польскі ці літоўскі, —
Што нам Колас і Купала,
Нам бы шмотак, нам бы сала!
Не да роднай зараз мовы —
Не накормяць жа нас словы,
А галоднаму — капут!
А нажрэшся — будзе гут!

Ды пакуль што не са смакам
Мы глядзім на дулю з макам
І разводзім тары-бары
Пра рублі і пра даляры,
І пра тое, як імгненна
Скачуць конікамі цэны,
Нават сталі прывыкаць:
Цэны скачуць, мы ж — драмаць.

Дрэмлем мы, а лезе „пена"
З хцівым позіркам, надменным,
Прабіваецца да ўлады
І, што дрэмлем, вельмі рада,
Даспадобы ёй, як спаць,
Бо няма каму здзімаць.

**Янусь Малец**

# СЕНТЭНЦЫІ

За сваімі плячыма не схаваешся.

* * *

Галава пад парасонам дзеля таго, каб ступаць сухою нагою.

* * *

Доўг — цвік банкрута.

* * *

Цікавасць чыстая, як крыніца, у якую акунаецца.

* * *

Меланхолія — самотны танец познай восенню.

**Барыс Руско**









Мал. Мамдуха Хамадаха

# КАМЕРЦЫЙНАЯ ТАЙНА

Васьмікласнікі Пецька і Генка ўпершыню за апошнія тры гады „не змыліся" з класнай гадзіны. Іх зацікавіла сустрэча з бізнесменам, якога запрасіла іх „класная дама".

Калі раскошны бліскучы „Мерседэс" павольна спыніўся ля прыступак школы, Пецька і Генка, кінуўшы ў школьны кут недакураныя цыгарэты, подбегам ірванулі да шыкоўнай машыны:

— О-ба-на! — з захапленнем усклікнуў Пецька.

— Клас! — выкаціў вочы Генка.

Класны кіраўнік была задаволена стопрацэнтнай яўкай і першая задала пытанне маладому бізнесмену Ліпкіну:

— Скажыце, калі ласка, як вашай фірме ўдалося за такі кароткі тэрмін стаць адной з самых вядомых?

Ліпкін паправіў японскі гальштук на італьянскай кашулі і паглядзеў у столь. Потым упэўнена сказаў:

— Працай. Самаадданай працай.

Пецька з Генкам з павагай пагледзелі на Ліпкіна.

— Скажыце, — высунуўся Пецька, — а якой працай? Праца ж розная бывае...

Бізнесмен адкашляўся, загадкава падумаў і гэтак жа загадкава мовіў:

— Камерцыйная тайна, — і, падумаўшы, шматзначна дадаў: — Трэба ўмець купіць і ўмець прадаць.

— Малаток! — шапнуў Пецька Генку на вуха, хоць нічога і не зразумеў з адказу бізнесмена.

— Скажыце, а колькі прыбытку ваша фірма атрымала за месяц? — спытала „завучка" Алена.

— Ну, гэта таксама камерцыйная тайна, — даходліва растлумачыў Ліпкін.

Камерцыйнай тайнай аказалася і тое, ці часта фірму трасе рэкет, ці ёсць у яго, Ліпкіна, целаахоўнікі, колькі каштуе яго легкавік.

Але тым не менш і настаўніца і дзеці былі страшэнна задаволены: сустрэча пры стопрацэнтнай яўцы ўдалася. Гэта вам жывы бізнесмен, а не нейкі герой — ветэран ці пісьменнік.

На наступны дзень Пецька з Генкам у школу не прыйшлі: зараблялі першапачатковы капітал. Купілі ў нейкай бабулі на Маскоўскай дзесяць шклянак семак па тысячы, а на Варвашэні прадалі па дзве. Калі назаўтра Ірына Іванаўна строга спытала: „Чаму ўчора не былі на занятках?", — сябры таемна пераглянуліся і загадкава адказалі:

— Камерцыйная тайна...

**Зінаіда Сузько**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

У кабінет сексолага прыходзіць сужонства. Муж наракае на халоднасць жонкі. Лекар пагаварыў сардэчна з пацыенткай, прытуліў яе, пацалаваў. Жанчына ажывілася.

— Бачыце, — гаворыць лекар мужу, — такія захады неабходныя вашай жонцы. Трэба іх прымяняць прынамсі штодругі дзень па меншай меры цераз гадзіну і тады халоднасць бясследна прападзе.

— Ну, добра, — згаджаецца муж, — магу яе да вас прыводзіць па панядзелках, серадах і пятніцах. Па суботах не, бо я ў гэты дзень з сябрамі гуляю ў покер.

* * *

Званок у кватэру Кавальскіх. Адкрывае гаспадыня.

— Добры дзень, я працаўнік студэнцкага кааператыва. Ці гэта вы заказвалі мыццё вокнаў? — пытаецца малады чалавек.

— Так, уваходзьце.

Мінае дзесяць мінут. Званок у кватэру:

— Добры дзень, я працаўнік студэнцкага кааператыва...

— Ну і балаган у гэтай вашай фірме, — нервуецца Кавальская, — ваш сябра ўжо мые.

— ...я толькі што перад хвілінаю выпаў з акна.

* * *

— Колькі каштуе тэлеграма ў Аўстралію? — пытае ксёндз на пошце.

— Гэта залежыць ад слоў...

— А калі ўсе будуць прыстойныя?

* * *

Чыноўнік да прыбіральшчыцы:

— Дзе падзеўся пыл з майго пісьмовага стала?! На ім быў запісаны важны тэлефон!..

* * *

Кавальская хацела пахваліцца сяброўцы сваім новым аўтамабілем і ўзяла яе пакатаць. Пасля некалькіх хвілін, калі жанчыны разгаварыліся, самаход наехаў на дрэва, але пасажыркам нічога не сталася.

— Класны аўтамабіль, — хваліць сяброўка Кавальскую, — толькі як ты яго затрымаеш, калі паблізу не будзе дрэў?

* * *

— Афіцыянт, што мне параіце заказаць на абед?

— Прапаную рулеты з кашаю.

— Яны такія смачныя?

— Сёння на гэтую страву ніхто не скардзіўся.

* * *

Афіцыянт да госця:

— Што заказваеце?

— Вялікае піва.

— Светлае ці цёмнае?

— Што за пытанне! Вядома, што цёмнае. Бачыце хіба, што я нашу жалобу.

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**




Сэрцайка! Ёсць у мяне сяброўка. Сябруем ужо з ёй многа гадоў, бо і жывем побач, і ў пачатковую школу разам хадзілі, і цяпер разам вучымся ў ліцэі. Яна даволі прыгожая дзяўчына, і хлопцы яе любяць.

Не магу сказаць, што мне хлопцаў бракуе, але ў даны момант якраз нікога не маю. Ужо так адна хаджу некалькі месяцаў. Абы з кім хадзіць не хачу, а нічога цікавага не трапляецца.

А сяброўка мая, наадварот, перажывае вялікае каханне. Гэты яе хлопец ужо „вялікі": закончыў вышэйшую школу і працуе. Інтэлектуал! Сяброўка мая вельмі шчаслівая і ўсім хваліцца сваім хлопцам. Я не нават разумею, але ніколі не зайздросціла ёй. Навошта? У мяне ёсць свае справы. А што часова няма хлопца, дык будзе. Мы ж яшчэ ў другім класе толькі. Зрэшты, як жа магла б я быць нелаяльнай у адносінах да найбліжэйшай прыяцелькі!

Мушу аднак заўважыць, што сяброўка найбольш любіла быць з ім не ў кампаніі, а ў хаце. Таму я вельмі здзівілася, калі яна запрасіла аднойчы мяне ў госці і сказала, што будзе ён. Раней яна нават у кампаніі бывала з ім толькі мімаходам: пакажацца і знікне. Каб задоўга, відаць, не затрымаўся каля дзяўчат. Пахвалілася ім — і годзе! А прыгожы, то праўда.

А тут на табе: запрасіла мяне дахаты. Ага, хачу табе сказаць, што сяброўка жыве ў віле, у яе свой вялікі пакой. Бацькі не ўмешваюцца ў яе сардэчныя справы. А зрэшты, яны працуюць, так што можа яна там сустракацца не толькі з сяброўкамі.

Я нясмела стала на парозе сяброўчынага пакоя. Яе хлопец разваліўся на крэсле ля маленькага століка. Стаяла нейкая бутэлька, я не зразумела, што гэта было — віно ці каньяк, было таксама нешта салодкае.

Хлопец ускочыў з крэсла, цмокнуў мяне ў руку. Пачаў мітусіцца вакол мяне, усаджваць. Я адчувала сябе няёмка. Што я тут, галоўны госць?

Ну, а пасля ўжо пайшло. Увесь час то выпіваў за маё здароўе, то ўсміхаўся мне, то гаварыў са мною. Так — быццам бы мая сяброўка была пустым месцам.

Усё гэта было б яшчэ нічога, калі б скончылася на гэтым. Але хлопец пачаў падсоўвацца ўсё бліжэй. Тады стаў абнімаць мяне, пацалаваў у вуха, пагладзіў па валасах. Тады стаў шукаць мае губы, бо я адварочвалася ад яго. Праўда, сяброўка якраз выйшла з пакоя, каб нешта ўзяць яшчэ з кухні.

Мне было ніякавата. Не скажу, каб гэтыя яго пяшчоты выклікалі ў мяне нейкае раздражненне. Не, яны былі нават прыемныя. Аднак, сітуацыя была вельмі нязручная: раз — што гэта быў хлопец маёй сяброўкі, два — што дзеялася гэта ўсё амаль на яе вачах.

Ну, і ўяві сабе, Сэрцайка, сяброўка ўвайшла ў пакой, а ён прадаўжае тое самае. У пэўным моманце схапіў мяне рукамі за твар і пацалаваў у губы. Пры ёй. Яна апусціла вочы.

Уся гэта сітуацыя ўрэшце мне абрыдла і я вырашыла ісці дахаты. Рваўся праводзіць мяне, але я ўцякла. Жыла я зусім блізка, ды, зрэшты, баялася яго.

Мінулі тры тыдні. Сяброўка не гаворыць са мной. Не хачу ў яе забіраць яе хлопца, але і ён за мной не бегае. Зрэшты, я таго, што здарылася, не планавала і не прадбачыла. Дык ці ж можа яна мяне вініць у гэтым?

**Ася**

Ася! Або ты, халера, вельмі прыгожая — так што ён не мог вытрываць, або справы не выглядаюць так, як здавалася тваёй сяброўцы — не хлопец ён яе, а проста сябра. Хлопцы ходзяць часта з дзяўчатамі абы хадзіць, каб выглядала, што некага маюць. Ну, і час праводзяць прыемна. А дзяўчатам адразу здаецца, што ён яе кахае.

Калі ж сапраўды ён яе кахаў, а сустрэўшыся з табою, хацеў перакінуцца на цябе, то ўжо б адгукнуўся. Аднак, я б яму ўжо не верыла. Думаю, што проста яму пакуль што ўсе дзяўчаты добрыя. А ведае, што прыгожы, вось і лезе.

**Сэрцайка**